УДК 821.161.3-1
ББК 64(4Беи)
Д94

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 58.
Заснаваная ў 2009 годзе*

**Дэбіш, В.**
Д94 Чуйнар : вершы / Васіль Дэбіш. — Мінск : Кнігазбор, 2015. — 224 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 58).
ISBN 978-985-7119-30-1.

Анатацыя

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64(4Беи)**

**ISBN 978-985-7119-30-1**


# ШЛЯХІ...

* * *

Быў. Ёсць. Буду...
*Уладзімір Караткевіч*

Калі душу гняце знямога,
Калі палоніць сэрца страх,
Як ад Евангелля да Бога,
Нас да Радзімы кліча шлях.

Шлях не забыты, не збуцвелы
І непадкупны, як Ісус.
Да Беларусі дойдзе смелы,
І знойдзе там загібель хлус.

І збочыць мы не маем права,
Нястрымны, акрылёны крок.
Няхай смяюцца з нас Варавы,
За спінай тоячы клінок.

Хай пацалунак здрады Юда
Мне дорыць, як змяіны ўкус.
Я — быў,
　　　я — ёсць,
　　　　　　заўсёды буду!
Бо я — твой сын, я — беларус.

## Чуйнар

*У вянок Ніне Мацяш*

1

Сябрыну зноў за стол збірае
Чуйнарка — пасвятлелы твар,
Нібыта моліцца святая.
І з ёю моліцца святар.

Няма яе... Усведамляю:
Яшчэ адзін скачок, удар...
А я жыву, а я кахаю,
І мне жыццё як Божы дар.

Гады так хуценька мінаюць.
Б’е ў звоны Вечнасці званар,
А метраном час адмярае —
Тваёй... «маёй душы чуйнар».

2

Дрэмле ноч на маім плячы.
Мілавіца цалуе вейкі.
Не зламаць мяне, не змагчы.
Я чуйнар, музы сын.
Навекі.

Мяне цяжка любіць зямным,
Бо, як свет гэты, я — падманны.
Як аблокі, туман ці дым.
Шчэ хвіліна — зусім растану.



Я ўсяго толькі голас дрэў,
Толькі думка, што прагне плоці.
Вобраз. Дух. Толькі ціхі спеў
Ветру, спыненага на ўзлёце.

## Доўгая ноч

Ноч доўгая. Гляджу я на аблокі,
Як звер загнаны цераз сталь прутоў.
Акно. А да яго ўсяго тры крокі.
Тры крокі толькі — і ты вольны зноў...

Дарэмна лямпу запаліў — святліцай
Не стане ноч... Лягчэе пакрысе.
А можа, лепш змаўчаць, сцярпець, скарыцца,
З усімі згодна крочыць, жыць, бы ўсе?

Свой несці крыж пакорна — адзінокім?
Ці зоркай чорнай у нябёсах плыць?..
Прайсці да рамы — усяго тры крокі,
І толькі ноч, каб выбар свой зрабіць.



## Балада пра вужаптаха

Ні перад кім не ведаў страху.
Па-над Палессем вужаптахам
Кружляў, бы прывід той бясцелы.
Не ён — душа яго ляцела,
Галюткая, якую можа
У гэтым свеце скрыўдзіць кожны,
Над родным краем, па-над садам.
Да зор ляцеў і долу падаў,
Твар разбіваў у кроў аб крушню.
А ўслед крычаў натоўп бяздушны:
— Бач, разлятаўся! Непарадак!
Бясскуры, гідкі! Біце гада.
Душа павінна жыць у целе.
І следам камяні ляцелі...
Не вытрымаў тых здзекаў, болю,
Зямлёю стаў... То Сыс быў Толя.

## Гандляр

Базар. Зіма над горадам.
У твар завея б'е.
Гандляр, маленькі, згорблены,
Прысмакі прадае.

Жабрак паблізу. Голадна.
Працягнута рука.
Глядзіць звысоку, з гонарам
Гандляр на жабрака.

Пагардліва адвернецца,
Не дасць ані граша...
Бы мёд, спакусу велічы
П'е сквапная душа.



## Гномы

1

У стагоддзяў спрадвечным тумане,
Там, дзе травы даўно не растуць,
На лясной на здзічэлай паляне
Чалавечкі ліхія жывуць.

Там схаваны глыбокія норы,
І ніхто там не ходзіць даўно, —
Заказычуць цябе, загавораць
І зацягнуць на самае дно.

Ці юнак ты, ці сталы мужчына —
З іх палону не выйсці ніяк:
Аплятуць каранямі, ляшчынай
І свой чорны пакінуць вам знак.

Знак самотніка — змрок і аковы,
Тлену пах і магільныя сны.
Воля! Гэтага светлага слова
Аніколі не чулі яны...

2

Гібеюць без сонца ў сутоннях сваіх.
А дзесь срэбразвонна струменяць крыніцы
І кружацца птушкі ў нябёсах льняных.
Што птушкі? Мілей чарвякі і макрыца.

Ах, каб вы маглі хоць на міг зразумець,
Што воля — бы сонца праменьчык дзівосны,
Дык вы зненавідзелі б цемру і смерць
І выйшлі б з падземных магілаў да сонца.

Да дрэваў зялёных, да гэтай вясны,
Што сцелецца спелай травой каля дома.
Ды ціха сядзяць пад зямлёю яны —
Не чуюць мяне баязлівыя гномы.



## Русалка

У змроку халодным нямотнага дна,
Туманным, дрымучым, глыбінным,
Русалка жыла маладая адна,
Адна сярод пусткі і стыні.

Над ёю свяціліся зорак агні,
А вечар прасторы разгушкваў.
І сніліся ёй залацістыя сны:
Высокія дрэвы і птушкі.

Хацелася ёй цеплыні і святла,
Пяшчоты людской і кахання.
Рукамі ўзмахнула яна, паплыла
З цямрэчы ў блакітнае ранне.

— Загінеш, — раўла вадзяная сцяна, —
Чакае там смерць, не пяшчота...
«Мне б сонейка ўбачыць, — шаптала яна, —
А потым — ці важна, што потым!»

* * *

У нудзе непрагляднай, адчаі
Захлынуўся б я — выжыць не змог
Без падтрымкі іх: аберагаюць
Дзве святыні — Радзіма і Бог.

Калі цемра кладзецца густая
На крыжы непазнаных дарог,
Шлях мой зорна тады асвятляюць
Дзве святыні — Радзіма і Бог.

Не сканаць аднаму ў паняверцы,
Ніпачым ні палон, ні астрог,
Бо навек пасяліліся ў сэрцы
Дзве святыні — Радзіма і Бог.



* * *

Радзімы абраз, нібы мамы,
Мілую я ў сэрцы сваім.
Малюся ў разбураным храме,
У храме спакрэўцаў святым.

І прах невядомай Айчыны
Заўсёды, нязменна са мной.
Іду па вірах і па кпінах
І сэрцам гавею, душой.

## Стары паэт

Мінск. Вуліца Захарава. Як сон
Далёкі са шчаслівых дзён юначых.
Ідзе насустрач, згорблены ўжо ён.
Ідзе насустрач мне і ледзь не плача:

«Вось, бачыш, як састарыўся, браток!
А помніш, у Саюзе мы, бывала...
Мне б каньячку, гарэліцы глыток,
І можа, брат, хоць трошкі палягчала б.

Баліць мне сэрца. І душа баліць.
Сябе прадаў я за кавалак хлеба.
Не хочацца на гэтым свеце жыць.
Абрыдла ўсё. А жыць на свеце трэба.

Даўно ўжо ў Бога смерці я прашу.
Глядзі, зіма як пабяліла скроні.
А вершы, браце, болей не пішу.
Каму яны патрэбныя сягоння?

Хто іх чытае? Хіба ты ды я?
Што пра другіх і гаварыць тут, браце.
Мяне не разумее нат сям'я.
Зусім чужы я стаў у роднай хаце.

Не рады мне ні жонка, ні дачка.
Расейскія цяпер чытаюць кнігі.
Спяшаешся? Не? Трошкі пачакай,
Я збегаю ў рэдакцыю, тут мігам...»



І знік, як быццам не было. Прапаў!
За ім самотна зарыпелі дзверы...
Шчэ на прыступках доўга я стаяў
Падземкі... Плыў натоўп маўкліва-шэры.

## Быць прарокам

Сумна ў гэтым краі быць прарокам.
Знае гэта воран і паэт.
Бо прарок заўсёды адзінокі.
Адзінокі, як і гэты свет.

Страшна ў гэтым краі быць прарокам:
За правіну б'юць і без віны.
Лёс прарока — у халодным змроку
Біцца аб сцяну глухой маны.

Цяжка ў гэтым краі быць прарокам,
Ставіць талент і жыццё на кон
І тачыць знявер'я краты вокам,
Поўным слёз, аж да сканчэння дзён.

Быць прарокам тут, у краі, мала.
Толькі кім быць мусім у жыцці,
Каб пад непахіснаю навалай
Каінаў падняцца і пайсці?



* * *

Палілі ведзьму на агні,
Бо розніцца вядзьмарка тая
З людзьмі навокал. Далані
Не так, бы ўсе, яна стуляе.

І моліцца яна не так.
Не так жыве, не так кахае.
На шыі д'яблавы ёсць знак —
Радзімка-зорачка жывая.

Не там свае праводзіць дні
І ночы чорныя, дзе трэба.
Палілі ведзьму на агні...
Халоднае маўчала неба.

* * *

*Міколу Купрэеву*

Сам-адзін. Знямоглы
Чалавек-дзівак
Доўгаю дарогай
Крочыць ціха так.

Праз начэй вярыгі
І праз церні дзён.
У тарбіне — кнігі,
Хлеб, вада і сон.

А на сэрцы смутак
Востры, нібы нож.
Па спіне сагнутай
Барабаніць дождж.

Зверне моўчкі ў пушчу
(Мноства ў лесе кніг!)
Да звяроў і птушак —
Да братоў сваіх.



## Звыроднасць

Кубла змеяў у купіне.
Пераплятаюцца,
шыпяць.
Ніяк не могуць
успомніць, хто яны?!.
Кубла змеяў у купіне.

* * *

Скажы мне, што такое шчасце:
Сям'я, каханая жанчына,
Пабудаваны дом уласны,
Камп'ютар новы і машына?

Сад, дзе звінела колісь лісце
І свет яснеў ад траў і кветак?
Любоў?.. Так думаў я калісьці
І захапляўся думкай гэтай.

Я верыў, што шчаслівым стану,
Дарыць надзею буду людзям.
Не ведаў я, што свет падманны, —
Ён захлынуўся ў тхле і брудзе.

Дзе ён, той пах вясны і кропу,
Які ў юнацтве мы шукалі?
Лісцё пайшло ў касцёр, у попел,
А кветкі, што цвілі, завялі.

Сябе былых мы толькі цені,
Мы толькі водбліск зоркі яснай,
Што ў небе ўспыхне на імгненне
І, недасяжная, пагасне.



* * *

Жыццё — кароткі міг. І ўсё.
На ўзмежку восені і лета
Крывавы неба пас рассёк —
Разрыў ці зоркі, ці каметы.

І ўсё. Канец. Твой тэрмін сцёк,
Як ні было б балюча, горка.
Міг... І успыхнула жыццё
Каметай новай, новай зоркай.

Кудысь баімся не паспець,
Пакутуем, сябе губляем.
Жыццё — кароткі міг. А смерць?
Ёсць — Вечнасць. Смерці не бывае.

* * *

Вецер за вокнамі плача асенні.
Цяжка... Пабелена зімамі скронь.
Можа, жыццё — толькі мара, трызненне?..
Ліжа паленне сырое агонь.

Грэю ля печы прамёрзлыя рукі.
Вочы зліпаюцца, хочацца спаць.
Хто гэта кліча?.. Дзівосныя гукі!
Ці жураўлі, ці анёлы ляцяць?

Мне не заснуць аж да ранку сягоння.
Шыбіны злосна ад ветру звіняць.
Што там, у чорным нябесным прадонні,
Пекла, а можа збавенне?.. Як знаць.



* * *

Бывае час, калі душа баліць.
Паразумення хочацца, размовы.
А свет, бы лёд халодны, свет маўчыць,
І на марозе замярзаюць словы.

* * *

Я не ведаю, як зразумець гэты свет,
Дзе пануе блюзнерства, падман і знямога,
Дзе бязлюднай дарогаю крочыць паэт
У шуканнях і праўды зямное, і Бога.

Ды ці ёсць яна, праўда, у грэшным жыцці?
Мо і ёсць. Толькі недзе далёка-далёка.
І праз боль да яе і пакуты ісці,
Бо сапраўдны паэт — ён заўжды адзінокі.



* * *

Не ўсё праўдзівае, што зроку
Хоць зблізку бачна, хоць здалёк.
Вунь свеціць месячык высокі.
Глядзіш — і бачыш светлы бок.

А ёсць і цёмны, толькі недзе
Схаваны ад людскіх вачэй,
І толькі моцнаму — разгледзець
У ясным бляску стынь начэй.

## Народ

Народ! Яго ўсё менш — народа.
Не разумею: дзе ён, дзе?
Цяжэй уцяміць з кожным годам,
Куды так шпарка ён ідзе.

Ляціць куды і дзе згарае,
Губляючы ў вяках сляды...
Здаецца: вось за небакраем
Праз хвілю знікне назаўжды.



* * *

Піць з срэбра ды насіць саеты
І есці з міскі залатой.
Шыкоўна жыць. Ці шчасце ў гэтым?
Ці трэба гэткі мне спакой?

Каб футры ратаваць ад молі
І з фаліянтаў пыл здымаць...
Лепш галадаць, але на волі.
Без волі і палац — турма.

* * *

Між хаосу Сусвету — спазнаць бы сябе.
Хоць маленькую частку вялікай прыроды.
Як не сейбітам быць — зернем стаць у сяўбе.
Узрасці і пакінуць каб свой асяродак.

З пустаты каб мне вырвацца гэтай зямной,
Дзе кіруюць усім грэхароднасць і грошы.
Што жыццё? Барацьба чалавека з сабой
І разгадак быцця мройны, прывідны пошук.



* * *

Не бачыў ніколі такога страхоцця ў жыцці:
Хісталіся дрэвы навокал, дарога і неба.
І голас суровы пачуў я з нябёсаў: «Плаці!
Плаці за спакой свой, за лустку духмянага хлеба.

За тое, што піў, што грашыў,
не па-людску што жыў,
Забыў што сцяжынку да роднага дому дазвання,
Жыццём заплаці!» Ды ўжо столькі разоў я плаціў
Сваёй маладосцю, тугою па доме, каханнем.

Сябе перажыў я, і ўжо не палохае смерць.
У рукі маланку вазьму, запалю цыгарэту.
— Гэй, вы, там, на небе, сляпыя?
Ці ж не зразумець,
Што гэткая ж — роўная з вамі — стыхія паэта?

* * *

Дух, бы вязень з турмы, выйшаў з цела
І, як птушка, узвіўся ў нябёсы —
На свабоду яму закарцела,
Не зламанаму клешчамі лёсу.

На калені я ўпаў і малітву
Зашаптаў ва ўтрапенні і жалю:
Вольны дух у нябёсах вёў бітву
З духам хмар, што святло засланялі.



* * *

У замку старажытным Гедыміна,
Нібы імшу, каля сівой сцяны
Шаптала беларуская дзяўчына
«Пагоні» словы. І плылі яны
Па вулках Вільні, будзячы світанак,
Па-над Даўгавай, што ў вякі ўрасла,
Паўз веліч храмаў і Пятра, і Ганны,
Праз вольніцу, што ў нас калісь была,
Праз Адраджэння час да родных гоняў,
Да родных хат і праз нябёс прасцяг
Імчалася крывіцкая Пагоня,
Не ў змозе адшукаць забыты шлях.

## Пярун

Між небам і зямлёй панура
На прасцірадле зрэбным хмар
Кружляе, лоб у думках хмурыць
Агню і грому валадар.

Маланкі-стрэлы ён трымае
І пазірае грозна ўніз.
Цямнеюць фарбы, дзень канае.
Знікае вёсачкі абрыс.

Хаваюцца па хатах людзі.
Ды ледзь чутны малітвы іх.
Пярун б'е ў бубен неба, будзіць
Агонь патухлых душ людскіх.



## Павук

Калматы, бы кудзер, павук
У сенцах тчэ кросны адважна.
У дзеда цікавіцца ўнук:
— Дзядуля, скажы, што ён вяжа?
Мо сетку, каб гойданку мець?..
— Ах, мой даражэнечкі ўнучак,
Жыццё ён нітуе і... смерць
Сваёй павутою ліпучай.

## Булгакаўскае

Пятніца сёння. Трынаццаты дзень.
Ранак. Туманлівасць. Воланда цень.
Рэйкі трамвайныя. Дзве каляі.
Мокрыя крошкі дзяўбуць вераб'і.
Шэрае неба. Размытыя твары.
Плямы алею на тратуары.
Роўная лінія, раптам — крывая.
Злосна, крыклiва трамвай ад'язджае.
Лёгкіх паводзінаў побач паненкі.
Мітынг гудзе на бульвары Шаўчэнкі.
Слухае моўчкі натоўп разявак.
Мёртвая ў снезе ляжыць галава.
Можа, мая? Я рукою кранаю...
Кроў пунсавее на колах трамвая.



## Жыццё

Сотні калідораў
разгорнутай
кнігі,
дзе на старонках —
дзівосныя выявы, сэнс якіх
разгадаць
немагчыма,
як і ўсвядоміць тое,
што
адбудзецца з намі
ў канцы
калідораў.

## Люстэрка

Крыжападобны павук
паўзе па маім твары.
Чорны, калматы.
З агідай скідваю рукою
на падлогу.
Я — у гневе.
Хачу забіць яго,
растаптаць.
Імгненна знікае
пад канапай,
хаваецца ў цемры.
Бягу да люстэрка.
Узіраюся...
Вось ён —
перада мной.
Не ведаючы таго,
я ледзь не забіў
сябе.



## Дно

Напружана ўзіраюся
ў дно
        глыбокае
                душы.
Бачу:
многа задушаных слоў,
забітых пачуццяў;
у прыгнечанай цішы —
абрывы,
        агоніі,
                трызненні...
Цяпер я ведаю,
адкуль
        прыходзяць
                буры.

## Вавёрка

Рыжая вавёрка круціцца
ў коле.
Яна стамілася,
але бяжыць,
пакуль круціцца кола,
пакуль не спыніць яго гаспадар...
Я — рыжая вавёрка
ў клетцы часу.
Стаміўся жыць,
але працягваю свой бег,
пакуль круціцца
кола жыцця,
пакуль не спыніць яго
Гаспадар...



## Страх

Не бачыш нічога,
ды ўсё-ткі ідзі...
Чуеш:
у вецці зялёным
пагойдваецца птушка.
Недзе паблізу
звер прытаіўся.
Не бойся яго.
Гэты звер —
толькі ў нашых галовах.
Заўжды непрыкметнае тое,
што дзеліць святло і цемру.
Неспазнанае палохае нас
і страх нараджае.
Абрастаючы шкарлупіннем,
скажоным робіцца свет:
зоркі ноччу ярчэюць, растуць,
днём раптоўна знікаюць,
як мары людзей,
як нязбытныя мары Айчыны...
Ідзі.
Бачыш:
знаходзячы ў цемры дарогу,
не баючыся ўпасці,
месяц плыве...

## Маланка

Мільгае маланка ў небе,
высвечвае сцежкі-дарожкі...
Ляціць праз ноч
проста ў маё сэрца.
Яна можа параніць,
забіць мяне.
Не хаваюся ад яе:
імклівая, жудасная,
ды вабіць да сябе,
не баіцца цемры.
Узіраюся ў неба.
Над Радзімай
гарыць продкаў агмень.



## Адрачэнне

*Прысвячаецца*
*Васілю Гадульку*

Ён быў паэтам.
Ён пакінуў каханку,
якая век дакарала:
«Што піў?» і «Дзе грошы?»
Вяскоўцаў, якія дапытваліся:
«Ці жывеш, ці памёр?..»
Ён пакінуў свой дом,
які замінаў вольна дыхаць,
стаў служкай блакіту.
Ён пасвіў авечак, звяроў і птушак,
сляды на траве,
а ноччу — зоркі на небе.
Калі яму рабілася невыносна — пачынаў лічыць
аблокі, васількі, час — усё, што было вакол.
Ён ведаў мноства моў,
мог свабодна размаўляць з кветкамі і птушкамі,
хмарамі і дрэвамі, ветрам і ручаём.
Знудзіўшыся жыць, ён памёр;
пакінуў пасля сябе нататнік з вершам:
«Цяпер я, прынамсі, вольны —
ад сябе!»

## Іранічнае

Я па БТ уключаю навіны.
Надта жахлівую бачу карціну:
Крызіс навокал, тайфуны, цунамі,
Мор у Пекіне, сутычкі ў Панаме.
Пухнуць ад голаду бедныя грэкі...
Скрозь парушэнне правоў чалавека.
А ў Беларусі цудоўнае ўсё —
*Уравень жызні расцёт і расцёт,*—
Гэтак праз год узрасце да нябёсаў.
Дзіўна, чаму ж я і голы, і босы?
Можа, я дурань, мо недарэка?!
Дапамажыце мне, бедныя грэкі!



* * *

Прысніцца: адчыніць дзверы
І шмыгне ў пакой мой ранак,
Ля ног чалавека-зверам
Прысядзе, двайны, бы Янус,

І стане шаптаць ціхутка,
Як любіць мяне. Світае...
Зазыркае раптам люта —
За спінаю нож трымае.

Прачнуся: вакол цямрэча.
«Адзавіцеся, — крыкну, — хто вы?»
Шкрабуцца шчуры пад печчу.
Год крочыць па свеце Новы.

* * *

«Не любіш Беларусь», — шыпенне чую.
Што падкалодным мне ў адказ сказаць?
Не Беларусь, панове, не люблю я,
А трутняў, што на шыі ў нас сядзяць.

Іх лік расце з пражытым кожным годам.
І што ні дзень — расце іх подлы род,
Тых трутняў, што завуць сябе народам
І абражаюць, гнобяць свой народ.



## Сляпы

Чакаю сонца. Ўзняў з надзеяй голаў
Высока ў неба. Птушкі ў гнёздах спяць,
І цішыня злавесная наўкола.
Чакаю дзень. І два... А сонца не відаць.
Зняможаны, бы рэха, паўтараю:
«Узыдзе сонца і заззяе зноў!..»
Жыццё прайшло... Я сонца ўсё чакаю,
Не знаючы, што сам сляпы даўно.

## Без рахманасці

Мне пагражаў ён кулаком: «Пустыя,
Нікчэмныя... Дзе ваша Беларусь?
Ад Брэста да Масквы — Вялікая Расія,
Ад Кіева і да Сібіры — Русь».

Нахабства не сцярпеў. І даў з размаху ў грудзі.
У цемені двароў прапаў ягоны след...
А Беларусь была, і сёння ёсць, і будзе,
Пакуль такі, як я, шчэ ёсць паэт.



* * *

Гадзюка-злосць паўсюдна спее:
І ў лазні, і ў шыкоўнай краме.
Не толькі ворагі шалеюць —
Ідзе вайна паміж сябрамі.

Ты ці цябе. Далоў ваганні,
Калі жыццё праходзіць міма!
Вайна вядзецца за ўладанне
Зямлёй, жанчынамі, Радзімай.

* * *

Крычалі: «Вараве — свабоду!
На крыж, на пакуты — Хрыста!»
Яны гэта. З добрай іх згоды,
Бясспрэчнай, жывём мы не так.

Атрутаю — вусны. Праклёнам
Застылі нябёсы. Зірні —
Халоднае чую і сёння,
Крывавае чую: «Распні!»

Знікаюць бясследна народы
І мовы, бы іх не было.
З бяздушнай, і толькі, іх згоды
Ікластае плодзіцца зло.



* * *

Выйшлі ў сад Гефсіманіі, што за Кедронам,
Ён на вучняў зірнуў і прыцішыў свой ход.
І маліцца пачаў пад вярбою схілёнай
За Радзіму і свет, за сябе і народ.

Ясны месячык ззяў з неабсяжных нябёсаў.
Хмарка лебедзем па-над ракой праплыла.
І прамовіў Ісус: «Свет наяве дзівосны...
Каб мяне абмінуць тая чара магла!

Толькі воля Твая. Гэтак быць і павінна:
Я з пакорай прыму, Ойча, з рук Тваіх смерць...»
Праляцелі вякі. Той кароткай хвіліны
Сэнс таемны і сёння не ўсім зразумець.

## Крыж

Два дзясяткі стагоддзяў... Аслабелы, худы
Ішоў Хрыстос на Галгофу. Промні сонца па дахах
Малацілі, на шкле пакідалі сляды.
І пад крыжам цяжкім ён упаў на сярэдзіне шляху.

І ніхто не памог яму ўстаць. Пацяшалася ціш,
Непатрэбны, нічый, скавытаў у даліне сабака.
Толькі хлопчык маленькі падбег і абняў чорны
крыж
І гаротна, бы гэта быў бацька ягоны, заплакаў.

Два дзясяткі стагоддзяў... А людскі белы свет
Не змяніўся. І сёння шальмуецца Божае слова.
Не спадоблены ўладай, не прызнаны народам
паэт
Крыж на спіне нясе, крыж пакутаў нятленны
Хрыстовы.

Аслабелы, худы, адзінокі. Ідзе ён ледзь-ледзь.
Сонца плечы без жалю пячэ, вусны высушыў
вецер.
Ён нясе праўды крыж і спрабуе душой зразумець
Тое, што зразумець могуць толькі маленькія
дзеці.



## Паэт

*Алесю Каско*

О, так — недасканалы свет,
З нутром пустым, што паглынае...
Пятля самотнасці... Паэт
Шчэ не адзін у ёй сканае.

І не ўратуюць ні віно,
Ні ведзьмы, ані чарадзеі.
Ён боль спазнаў, ён бачыў дно,
Дзе чорныя віюцца змеі.

* * *

Штосьці ў свеце не так,
Уратуй нас, Гасподзь.
Нібы яблык чарвяк,
Точыць час дух і плоць.

Патанулі ў брыдзе.
Сквапнасць — чорны наш знак.
Точыць душы людзей
Ненажэрны чарвяк.



* * *

Зазімкавы дождж б’е нудотна па твары.
Ці гэта я сніў? Ці аб гэтым я марыў?
Вясна прамінула, і лета, і восень.
Вятрыска сцябае сівое валоссе.

Цэп часу малоціць і думкі здрабняе.
Нічога нас болей ужо не яднае.
І горб адзіноты не скінуць мне з карку.
Халодныя прыцемкі сцелюцца ў парку.

## Герб

Знайшоў я старажытны герб крывы,
Што аздабляў калісьці замак нечы.
На ім партрэт — надбрамны вартавы, —
Вой на кані імчыць шыракаплечы.

Шляхетны позірк. Моцных рук размах.
На галаве — віхрастая чупрына.
За ім жыццё красуецца ў садах:
І персікі цвітуць, і мандарыны.

Звіняць страмёны, конь — нібыта звер,
І золата паблісквае на ўбранні...
Дзе веліч тая, дзе яна цяпер,
Міфічныя сады і збудаванні?

Што прынясе і радасць, і спакой?
Дзе моц былая, дзе былая слава?
Адно застаўся гэты герб іржавы —
Адлюстраванне марнасці людской.



* * *

А што жыццё — ці толькі існаванне?
Няма навін з пражытых дзён маіх.
Балюча бачыць мне то ўзвіў, то звіх
Цывілізацыі
І ўласнае змяркание.
Так хочацца паслухаць цішыню
І заблудзіцца ў цеплыні туману.
Сустрэць хоць чорта,
Ці самога Пана...
Душу сваю я аддаю агню,
Як верш, які яшчэ не дашаптаны,
Як мары светлыя, якія шчэ я сню.

## Рака жыцця

Рака жыцця! Як ліст зляцелы з вецця,
Плыву. А пада мною — вір і лёд.
То хмары нада мной, то сонца свеціць,
То шлях прамы ляжыць, то паварот.

Нясе, нібы лісціначку, па свеце
Халодная, цяжкая плынь вады.
Ідуць дажджы, і свішча нудна вецер.
За днём мінае дзень, ляцяць гады.

Куды? Навошта? Каб жа гэта знаў!..
Нясе рака лісцё і водар траў,
І кветкі першыя, і бруд, і смецце.



* * *

Мы — пыл. Мы толькі жменька пылу,
Што гоніць вецер на палі.
Чапляемся што мае сілы
За травы, камяні, камлі.

Ламаем, падаючы, крылы.
Жывём, а быццам не жылі.
Растуць самотныя магілы
Там, дзе калісь сады цвілі.

Не сціхне вецер апастылы
І разнясе нас па зямлі.
Мы толькі пыл... Вось жменька пылу,
Як напамін, што мы былі.

* * *

Яму — баліць! Сядзіць і плача.
Сядзіць і плача. І маўчыць.
Адзін. У парку небарача
Глядзіць у ноч, у далячынь.

Халодны дождж сцябае плечы
І твар, што каменем застыў.
Што тут згубіў ты, чалавеча?
Што ў цемры тут шукаеш ты?

Мо сам згубіўся? Вось няўдача,
А можа, ён стаміўся жыць?
Чаму ён так надрыўна плача?
Рыдае ён, а мне — баліць.



## Жабрак

Паўз храм да вакзала дарога.
Жабрак ля варот там стаяў.
Быў яшчэ не стары і знямоглы,
Але подаўкі клянчыў, стагнаў.

Я падаў яму грошы. Да крамы
Прыпусціў ён — вінам заліваць
Смутак свой... А ля божага храма
Бог застаўся адзін, паміраць.

## Чыноўнік

Ён богам лічыў сябе, высокі і рослы,
І цешыўся, як фарысей.
І вось ён памёр... раптоўна і проста,
Як паміраюць усе.

Проста, як памірае ў полі араты.
Рабочы каля станка.
Жабрак у канаве. Як літаратар
У пошуку марным радка.

Пакінуў стос непатрэбных рэчаў,
Спіс пазыкаў, які
Выкінулі на сметнік у той жа вечар
Нейкія яго сябрукі.



* * *

Цяжкім крокам морак крочыць
Па халодным тратуары.
Нехта ў чорным, грозны, сочыць,
Каб маім не збыцца марам.

Ды хтось здужаў горад сонны
Абудзіць ад сну нарэшце.
І з цямрэчы бел-чырвоны
Бліснуў ранак над Бярэсцем.

* * *

Ноч і ноч. Нам і зоркі не свецяць,
І не будзяць світанкаў званы.
Столькі страхаў, халуйства, маны...
Жыць ці льга ў перакуленым свеце,
Бы ў пячорах сляпых кажаны?



## Крот

Жыве пад зямлёю крот
у сваёй чорнай каморы.
Не наракае на лёс,
бо не бачыў святла.

## Паэзія

Абрэзала тугія косы,
Пайшла блукаць у белы свет
Расхрыстанай жабрачкай босай,
Блізну* на сэрцы маім, след
Пакінула. Шукаць — дарэмна.
Не хопіць нават соцень кніг.
Высокая, у сукні зрэбнай
Цяпер жыве — у снах маіх.

* Блізна (*абл.*) — рубец.



## Песня волі

У тую ноч я быў адзін у полі
Пад крыжам продкаў схіленым, сівым.
На небе поўня звонкая паволі
Плыла пярсцёнкам жоўта-залатым.

На травы падаў ці туман, ці іней.
А мо стагоддзяў адшумелых пыл?..
І знічкі ў небе, здраднікі вышыняў,
Сяклі агнём халодны небасхіл.

А хмаркі нада мною, — неба коні, —
Кудысь шалёна несліся наўскач.
І блізка так пачуў я гул Пагоні
І песню, што падобная на плач.

Праз вусціш дзён, туман над полем белым
І праз стагоддзяў пасівелых дым
Яна плыла і моўкнуць не хацела
Над крыжам, і над краем, над усім.

## Жаданне

Да хаты роднай, да дзядоў вярнуцца,
У вечар сціхлы, калі сонца гасне,
Пашкадаваць і прыгарнуць імкнуцца
Тых, хто ў журбе, шчаслівых і няшчасных.
З плячэй сваіх цяжкую скінуць стому.
Пачуць спеў салаўя і не заплакаць.
Нясмелым крокам разбудзіць ля дома
Панурага на прывязі сабаку.
Над студняю бяздоннаю схіліцца,
Папіць вады з вядра, такой салодкай...
За ўсіх жывых і мёртвых памаліцца,
За блізкіх і далёкіх нашых продкаў.



* * *

Свае дэкрэты і свае законы
У горада, — я вывучыў даўно.
Прапах бензінам ён і ацэтонам,
І танным ён яшчэ прапах віном.

Зусім чужы мне і зусім не родны.
Бы мачаха, глядзіць ён на мяне:
«Вы что за экземпляр, что вам угодно?»
Мне б бульбачкі ды сала ў чыгуне.

На рэчку б мне махнуць спякотным летам.
Паласавацца цёплым малаком.
Ёсць жабракі тут, і яшчэ — паэты.
Ды больш усё ж паэтаў-жабракоў.

Мне досыць па Машэрава бадзяцца.
Мне б басанож прабегчы па расе.
Мы ўсе тут жабракі, калі прызнацца.
Без роднай мовы — мы сіроты ўсе.

Манкурты мы, паклоннікі лжэбога.
Куды нячысцік нас усіх вядзе?
Ёсць Дастаеўскі, Пушкін, Горкі, Гогаль,
А дзе Купала, Багдановіч дзе?

Хачу на луг, дзе месячна ад кветак,
У лес за вёску, дзе жыве Пярун.
Як вусцішна мне ў горадзе, бы ў гета.
Ноч на дварэ. Шукаю Беларусь.

* * *

> Ад прадзедаў спакон вякоў
> Мне засталася спадчына.
>
> *Я. Купала*

Дзе бор, у промнях сонца залаты?
Дзе возера блакітнага світанне?
Сад, у якім калісьці я і ты
Знайшлі пад поўняй яснаю каханне?..

Ні возера няма таго, ні дрэў.
І, я туманам шэрым ахінуты,
Іду дахаты... Бор стары ссівеў.
Птушыны хор застаўся непачутым.

Дзе дом мой быў — руіны скрозь. Лісток
Зляцеў з вярбы і мне цалуе рукі...
Што сыну я скажу? Адкуль мы? Хто?
Што перадаць у спадчыну мне ўнукам?



# Вяртанне

> Я зразумеў, чаму распялі
> Хрыста... Ён паэтам быў.
>
> *Анатоль Дэбіш*

**Дзейныя асобы: п а э т і д ' я б а л**

П а э т (*сам сабе*)

Такая ноч! А зорак — што мякіны.
Блукаю па зямлі я шмат гадоў.
Даўным-даўно Радзіму я пакінуў,
А шчасця на чужыне не знайшоў.
Не радуе душу краса чужая,
Прайшоў і Крым, і Рым, і знаю я:
Няма мілей Радзімы, хай малая,
Хай бедная яна, але свая.

Д ' я б а л (*з'яўляецца неспадзявана*)

Вітанне! Вас спаткаць якраз ахвочы.
Патрэбная, гляджу, вам дапамога.
Карчма далёка. Нам шчэ доўга крочыць.
Ды калі ўдвух, то весялей дарога.

П а э т

Вы хто, адкуль?

Д ' я б а л

Мо лепей вам не знаць,
Бо пра мяне ідзе дурная слава, —
Што душы я «прызначаны» купляць
Гаротныя, каб іх у пекла «сплавіць».

П а э т

Ты — д'ябал. Так, я пазнаю цябе.
Не раз ты да мяне ў часіны суму
Прыходзіў. І калі душа ў журбе
Сціскалася, пра непазбежнасць думаць
Мяне ты прымушаў.

Д ' я б а л

Мая віна?
У чым, скажы? За ўсіх гатовы сведчыць:
Жыццё — дурман, ілюзія, мана.
Свет у граху паграznуў чалавечым.
У чым жа вінаваты я, паэт?
Што даў калісьці людзям плод пазнання
І музыкай напоўніў гэты свет
І слодыччу граху, святла, кахання?
Што вочы вам на рэчы я адкрыў?..
За гэта з Раю выгнаны я быў.

П а э т

Замоўкні. Згінь. Я слухаць не хачу.

Д ' я б а л

Баішся праўды ты, ці мне здаецца?
Душу прадай, я золатам плачу.
Чырвонцамі...

П а э т

Душа не прадаецца.



Д ' я б а л

У гэтым свеце прадаецца ўсё:
Маёмасць, і пасады, і газеты,
Жыццё, здароўе, бестурботны сон,
Віно, і прастытуткі, і паэты.

П а э т

Прыдворныя паэты. Я ж пяю
Пра свой народ, пра волю, пра Айчыну.

Д ' я б а л

Пра волю, ты гаворыш, а чыю?
Пустыя словы. Дым, туман нічыйны.
Яе і не было зусім ніколі.

П а э т

Без волі і не варта нават жыць.

Д ' я б а л

Не варта жыць? Навошта людзям воля?
Што з ёй рабіць, куды падзець, скажы?
Ну вось зруйнуеш турмы і астрогі,
Яны ж пачнуць саміх сябе караць.
Даць людзям волю — як пятлю ім даць.

П а э т

З няволі не народзіцца нічога.
Высокі, недасяжны Духу ўзлёт.

Д ' я б а л

Пакуль абернецца ярмом на шыі?

П а э т

Ну а народ?

Д ’ я б а л (*здзекліва*)

Ды дзе ён, твой народ?
Куды ні глянь — сляпыя і глухія.

П а э т

Пакуль сляпы ён, бо вакол турма.
Ды прыйдзе час, калі прачнуцца людзі.

Д ’ я б а л

Што твой народ, калі асоб няма?
Мільён нулёў адзінкаю не будзе.
Нікчэмныя кузуркі, цёмны край...

П а э т

Але таму, што светам не пазнаны.
Да быдла ўсіх прыпісваць пачакай.
Народ — нішто, пакуль ён раз’яднаны.
А з’едніцца...

Д ’ я б а л

Наіўны ты, паэт:
Было і будзе так да скону веку.
Народ не перайначыш, як і свет.
Ты перайнач часцінку — чалавека.
Я ведаю даўно яго нутро:
Падманлівае і наскрозь гнілое.
Што чалавек? Што чалавечы род? —
Чарвяк, што точыць дрэва пад карою.



Маленькі чарвячок, не больш таго.
Яму не воля трэба, а ляйчына.

П а э т

Тады чаму баішся ты яго?
Баішся. Знаю. Мо таму прычына,
Што духам недасяжны ён...

Д ’ я б а л

Чарвяк!

П а э т

Усё, што бачна тут, стварылі людзі.

Д ’ я б а л (*здзекліва*)

Атрутную салетру, аміяк?..
Народжаны сляпым, сляпым і будзе.
Бізун і меч...

П а э т

Спагада і дабро.
Дзіцяці, і жанчыне, і мужчыну
Любоў патрэбная, а не прымусу лёд.
Служыць сваёй жадаю я Айчыне,
Сваёй зямлі. Люблю я свой народ.

Д ’ я б а л (*здзекліва*)

І без яго няблага можна жыць.
Народ ён любіць! Як хваробу хворы...
За што, за што, скажы, яго любіць?
За немач, за халуйства, за пакору?

П а э т

За што сваю матулю любіць сын,
Які яе яшчэ ў дзяцінстве страціў
І век правёў у пошуках адзін?
За тое, што яна, напэўна, маці.

Д ’ я б а л (*здзекліва*)

Ці мачаха?.. Твой свет пусты — ён з мар.
Сапраўдны свет быць мараю не можа.
Глядзі, мой верны служка — валадар,
Як ён жыве раскошна і прыгожа!
Не ведае ні гора, ні бяды.
Брывом ён толькі павядзе — і нізка
Паклоны б’юць стары і малады,
І люд сярмяжны, і паны-міністры.
І каб, крый чорт, не пахіснуўся трон.
Быць «добранькім» і быць тыранам здатны
Бязлітасным, бо нават жонку ён
Зусім нядаўна кінуў у вар’ятню.

П а э т

Ён сам — вар’ят. Не дзенецца нідзе,
Дыктатарскія рушацца асновы.
Куды, куды народ ён свой вядзе? —
Ні котлішчаў дзядоў, ні роднай мовы.
Ды ёсць мяжа ўсяму...

Д ’ я б а л

Няма мяжы.
Яму і ноччу ў небе сонца свеціць.
Улада, грошы, слава — варта жыць



Для радасцяў зямных на гэтым свеце.
Ты паслужы мне...

П а э т

Цемры не служу.
З табою на хаўрус не дам я згоды.
Служыць гатовы, існа я кажу,
Ды толькі не табе — свайму народу.

Д ’ я б а л (*здзекліва*)

Народ, народ... Пусты халодны звон,
Натужны крык галоднае вароны.
Змяніць не можа анічога ён.
Пануе валадар. Яго законы.
А слова ўладара і ёсць закон.

П а э т

Шчэ спіць народ. Глыбокі гэты сон,
Ды веру, што з каленяў ён устане,
І будзе гэта бура, а не звон!

Д ’ я б а л

Было. Касцюшкі смелае паўстанне...
І Каліноўскага. Ды чым яно тады
Закончылася?.. Шыбенічным балем.
Паўстанні ўсе — дарога на клады.
Адныя — фанатычна іх стваралі,
Другія — пажыналі іх плады.
Усе мне падуладныя яны...

П а э т

Даверлівы народ.

Д ’ я б а л

Народ — дурны.

П а э т

Ён не вар’ят, хаця і цяжка хворы.

Д ’ я б а л (*здзекліва*)

Марыянеткаю ў руках актора,
Які за ніткі тузаць мае дар.
Народ ты падзялі — і валадар.
Ці пасвары...

П а э т (*іранічна*)

Спадціху, пакрыёма?

Д ’ я б а л

Для гэтага ёсць тысячы прыёмаў:
Аднаму рай зямны паабяцай,
Уладу і шыкоўны дом — другому,
Упарціцца хто надта — задушы.
Кагось купі, кагось на пыл скрышы.

П а э т

Дыктатару няма, няма даверу,
Калі ён звер...

Д ’ я б а л

Яшчэ страшнейшага прыдумай звера.
Паміж людзьмі нянавісці зярняты
Пасей — і ўродзіць ураджай багаты.



П а э т

Любоў і Вера! Жменька мяхляроў —
Шчэ не народ зусім і не Айчына.
Я веру, пераможа ўсё ж дабро!

Д ’ я б а л

Дабро? Ды гэта проста немагчыма.
Нібыта крылы — так дабро і зло:
Адно падбі — не ўзнімецца другое.
Дабро без зла як без агню святло,
Як неба без шулепніка пустое.
І з кожным днём шырэюць рэкі слёз,
І новых нараджае свет тыранаў
І Юдаў новых...

П а э т

Але ёсць Хрыстос,
За людства на крыжы раскрыжаваны!

Д ’ я б а л

А што Хрыстос? Паслухаеш цябе:
Служыў ён людзям і служыў Айчыне,
І Богу нейкаму, а ў рэшце рэшт — сабе...
Не верыць хто — няхай той камень кіне.

П а э т

Я кіну камень. Сцверджу існасць вам:
Хрыстос паэтам быў, ён быў — паэтам,
І жыватворны крыж ён выбраў сам...

Д ’ я б а л

Узвысіцца хацеў ён па-над светам.
Вышэй валадара ён быць хацеў.
Дзе ён цяпер?

*Нейкую хвіліну пільна пазірае на паэта, раптам мяняецца ў твары.*

П а э т (*ён жа Хрыстос*)

Я думаў не прызнаеш.
Прызнаў мяне?.. Калоцішся, збялеў...
Прапаў я, думаў, назаўсёды дзесьці?
Ды я не знік, не згінуў назаўжды,
Вярнуўся я, каб слова праўды несці,
Любові вырасціць вакол сады.

Д ’ я б а л (*злосна*)

Сады любові?
Ці не памутніўся
Твой розум? Ад жыцця стаміўся ты?
Свет і на ёту нават не змяніўся.

*Здзеклівa паказвае на сохлы сад.*

Вось твой народ,
ён — гэты сад пусты,
Квітнець які ніколі ўжо не будзе.
Паўсюль, паўсюль разрухі тут сляды,
Пасля сябе пакінулі іх людзі.

П а э т

Мінуць часіны смутку і жуды,
Свет ажыве, як і людскія душы.



Я пасаджу тут новыя сады,
І дзе сцяною паўставалі крушні,
Сад новы заквітнее, малады.

Д ’ я б а л (*злосна*)

Свет памяняць не зможаш ты адзін.
Хадзем са мной.

П а э т

Святлу не перастану
Служыць, як і служыў я. Прэч ідзі
Ты ў свой сусвет халоднага туману,
Пануе дзе адвечнай смерці тло.
Ты сееш морак — я нясу святло.

Д ’ я б а л (*здзекліва*)

Святло нясе ў тарбіне? Што за ноша?
Улада, слава — вось што грэе кроў.
Было і будзе так спакон вякоў:
Кіруюць тым і гэтым светам — грошы!..

*Раптоўна знікае, як і з’явіўся.*

П а э т (*сам сабе*)

Тытаны, фараоны, каралі —
Ад іх застаўся толькі пыл, не болей.
Каштоўнасці існуюць на зямлі
Спрадвечныя — народ, Радзіма, воля.

# СВЯТАЯ НОЧ

* * *

Да роднай хаты! З светлымі буслямі,
Да рэчкі, што бяжыць між стромкіх дрэў.
Там маладосць мая жыла і мама —
Сышла на сконе дня, як ціхі спеў.

Плывуць на захад сумныя аблокі.
Не быў тут многа год. Цяжкі мой грэх.
Стаіць дубок, як бацька мой, высокі.
Чародкі птушак туляцца да стрэх.

Тут стужка згадак сцелецца прыгожых.
Усё — як і калісьці, як раней.
Да роднай хаты... дзе астылы ложак,
Такі мне родны, не забыў мяне!



* * *

Я гэтак не бачыў матулю даўно.
Астыла ад часу, паменшала хата.
Наросхрыст раскіну ў пакоі акно,
І ў твар мне дыхне пах чабору і мяты.

Напомніць дзяцінства забыты той пах...
Да мамы сваёй прыпаду на каленях
І кожную рыску на цёплых руках
Разгладжу і буду прасіць прабачэння.

# Хата

1

Зноў я ў роднай хаце.
Цень плыве кудлаты.
Водгук крокаў маці.
Ціхі голас таты.

Запалю я свечку,
Душы хай асвеціць.
Цвыркунок запечны
Затужыў па леце.

На сцяне — іконы.
Ажываюць мроі.
Павучок аконны
Тчэ радно сівое.

2

Наймілейшы — дом матулі,
Што пад ліпамі стаіць.
Ах, каб вы хоць раз пачулі,
Як пяюць там салаўі!

Там над дзічкай ззяюць знічкі,
Сонныя чмялі гудуць.
Серабрыстая крынічка —
Пырскі мёдам аддаюць.

Як там дыхаецца лёгка!
Сцелецца туман, бы дым.
Я іду павольным крокам
З вёдрамі — набраць вады —



Да крынічкі дзіўнай гэтай,
Што мне сілу, моц дае.
Ах, як зырка свеціць ветах!
Звонка як цвыркун пяе!

3

Не зарыпяць напеўна дзверы,
Няма іх — апусцеў наш дом.
Ні гуку бацькавай сякеры.
Заснуў мой бацька вечным сном.

Не стрэне маці, як калісьці,
З карзінай бэраў ля варот,
Што пахнуць восенню і лісцем,
Такіх салодкіх, быццам мёд.

Больш росным лугам не пакрочыць.
Не дыхаць водарам садоў.
Забіты накрыж вокнаў вочы.
Свет пабялеў — ад халадоў.

4

Кіпцюрамі дождж скрабе па стрэсе
Весела і ўпарта, нібы кот.
І пад шум дажджу, у сенях дзесьці,
Зашумеў матулін калаўрот.

Заспяваў... Той хвіляю здалося,
Што не проста гэта дождж ідзе,
А мая матуля дражніць восень —
Промні залацістыя прадзе.

5

Сцямнела і ў душы маёй, і ў хаце.
Над садам маладзік, як абярэг,
Што на дзвярах пакінула нам маці.
Зноў ападае яблыневы снег.

І кветак пах, і пах травы, і кміну.
Гудзе, з цямрэчы недзе, майскі жук.
Адзіны госць, за чашай успамінаў —
Як калісь, у юнацтве, я сяджу.

І мне здаецца: ажыла зноў хата.
Аладкаў пах, што маці нам пячэ.
У зорны комін курыць люльку тата,
І дым бялюткім воблакам цячэ.

6

Павуцінне на сцяне.
Хата цвіллю тхне старая.
Па ссівелым бервяне
Смолка коціцца густая.

Заржавеў на бэльцы цвік,
Парудзеў і стаў шурпатым.
Чуецца варонін крык
У алешніку за хатай.

Гаспадыні не чуваць,
Гаспадар сышоў... Нікога...
Знічкі з шыбінаў ляцяць,
Бы жарынкі, на падлогу.



7

Халадае. Канчаецца лета.
Дожджык пыльнае шкло распісаў.
Так нядаўна яшчэ хаце гэтай
Певень песні на золку спяваў.

Сёння пуста. Нікога навокал.
Пустазелле вакол парасло.
І не льецца іскрыстае з вокан,
Як усмешка матулі, святло.

8

Паламаны плот. Гарбаты.
З гонты дах счарнеў зусім.
Над пустой, бязлюднай хатай
Кружыць воран-пілігрым.

Не чутны матулі крокі,
Дом аглух ад нематы.
Дзе былі калісьці вокны —
Рот ашчэраны, пусты.

Ураслі па грудзі дзверы.
Бэз, што цвіў ля ганка, знік.
Абарваныя шпалеры.
Матчын, крыжыкам, ручнік.

Не сустрэне нас ніколі
Мама, хіба толькі ў снах,
Не раскрыліць чуб мне болей,
Не прабаіць казку нам.

І, як куфар, не адчыніць
Сэрца, каб нас адарыць...
Адплыла. І Вечнасць стыне.
Свечка памяці — гарыць.



* * *

У горадзе — смутак і стома.
І ўсе як адзін вечары.
Калі прыязджаю дадому,
Не сумна — суседзі, сябры.

Ляці сабе — у паднябессе.
Ідзі сабе — сотні дарог.
Між сосен высокіх у лесе
Сябе адчуваеш, як Бог.

Па вёсцы я крочу на золку.
Што бачу — я рады ўсяму.
А сонца ўзыходзіць — вясёлкай.
І сэрцу так цёпла майму.

* * *

Вёсачка. Вусціш. Сядае
Белы туман на палі.
Знічкі ў нябёсах міргаюць,
Як у дзяцінстве калісь.

Поўня — у хмарных завулках.
Цені над хатай плывуць.
Бэры зрываюцца гулка
І асвятляюць траву.

Песня пра Янку ліецца, —
Звонкі той спеў песняроў.
І не было як, здаецца,
Гэтых пражытых гадоў.

Сны ў небыццё адляцелі.
Моўчкі пад грушай стаім.
Слухаем ноч... Пастарэлі
Яблынькі ў садзе маім.



## Каляды

На покуці ікона ажыла,
Кунежыла мілосцю стол і сцены.
Куцця стаяла на краі стала,
І пірагамі пахла, пахла сенам.

Прысмакаў досыць на стале было:
І пернікаў з цукеркамі, і мёду.
І ксцілася мястэчка, і нясло
Святое слова і спакой, і згоду.

І так было нам радасна, малым.
Дзівіліся ў ваконца мы: дарогай
Падпёршы галавою неба, дым
Няспешна плыў па Каляду да Бога.

## Вялікдзень

1

Адзін, другі — пяюць званы суладным хорам,
Разносяць радасць-вестку па дарогах:
Хрыстос васкрос! І славяць Пана Бога.
Вясны прыход. І ажывае горад.

Ідзе натоўп — і дзеці, і жанчыны
Урачыстасцю напоўнілі сутонне.
Нясуць малітвы ў небнае бяздонне.
І яйкі ў кошыках, і мандарыны.

І забываецца туга-маркота,
Дзяцінства ажываюць казкі-чары.
Бабулечак прасветленыя твары,
Дзяўчат усмешкі, поўныя пяшчоты.

Ідуць суладна. Без канца і краю
Калейка цягнецца да брамы, да касцёла.
Пад гуд званіц таемны і вясёлы
І я ў сабе Ісуса ўваскрашаю.

2

Велікодная свечка,
Нібы дзень ясначолы.
Маці свенціць яечкі
Каля брамы касцёла.

Спеў званоў, чысты, светлы,
Як і светлае ранне.
Усміхаецца ветла
Маладзік у тумане.



Пад зжаўцелай газетай
Каравай пахне смачна...
А душа шчэ дагэтуль
Па той радасці плача.

## Агмень

Як прывід, на акне фіранкі цень,
Прыблізіцца ціхутка і знікае.
Патрэсквае паленне, і агмень
Гарыць трывожна. Вецер завывае.

Наяве гэта або толькі сню:
Яе кіёк і торбачка пустая.
Я маму бачу. Села ля агню.
Маўчыць. І толькі сумна пазірае.

І ноч ужо не ноч, а ясны дзень.
А мама ў белай сукні, маладая...
Гудзе ў каміне памяці агмень
Сівой завеяй і не патухае.



## Пахаванне

На дол зямлю кідаю я ў знямозе.
А навакол — халодная зіма.
І нехта сумны крочыць па дарозе.
Няма матулі больш маёй. Няма.

Без маміных вачэй азябне хата.
Асірацее. Моліцца радня,
Убок адводзіць вочы вінавата.
І цішыня. Нямая цішыня.

Стаіліся між дрэў, прыціхлі дзеці,
Глядзяць са страхам на дубовы крыж...
Без мамы так сцюдзёна ў гэтым свеце,
Як быццам у магіле сам ляжыш.

## На магіле

Пафарбаваў лаўку,
вырваў зелле,
пасеяў траву,
пагаварыў з маці...
Нібыта дома
пабываў.



* * *

«У куце, дзе абраз,
Бог жыве», —
казала мне маці,
калі быў яшчэ
зусім маленькім.
Я падоўгу ўзіраўся,
ды, акрамя партрэта,
нічога не бачыў.

Шмат гадоў праляцела,
пакуль зразумеў я,
што Бог жыў
не ў куце,
дзе вісеў абраз,
а ў тваім
сэрцы,
Мама!

* * *

Убачылася сёння ўночы мне:
Ідзе дамоў матуля цаліною.
На галаву ляціць ёй зорны снег
З няіснае сінечы залатое.

З-пад ног яе ўцякаюць крумкачы,
Анёл глядзіць з нябёсаў вінавата,
Абдымкі расхінае, ды маўчыць.
Ідзе душа. Спяшаецца дахаты.

Не, не ідзе яна ўжо, а плыве
Бялюткім воблакам па адзвінелых росах.
Світае. І яснеецца ў траве
След ног яе маленькіх, кволых, босых.



## Засуш

Ад самай раніцы спякота.
Ні аваднёў няма, ні мух.
Луг парыжэў і пахне потам,
Бы скінуты з плячэй кажух.

Лісцё ў кустах лянотна звісла.
Ані расінкі — проста здзіў,
Нібыта хтось ліхі наўмысна
Касцёр на пожні запаліў.

На лузе зніклі гусі, качкі.
Балюча там павіс спакой.
А рэчка, хворая гарачкай,
Уся — нібыта сырадой.

Ад самай раніцы спякота.
Ні аваднёў няма, ні мух.
Луг парыжэў і пахне потам,
Бы скінуты з плячэй кажух.

## Чарнобыль

Дзіця цалавала кветку,
Ружовых пялёсткаў крылы.
Так радасна і так ветла
Яно галаву схіліла.

Над гэтым пякельным болем —
Такое вялікае дзіва!..
Над лугам зялёным, над полем
Дзяўчынкі плыў смех шчасліва.

Яна ў гэты міг вясёлы
Не знала пра цэзій і стронцый...
Дзяўчынка ў далоньках кволых
Трымала маленькае сонца.



## Дзень

Дзень — чысты,
вымыты цёплым вясновым дажджом, —
лашчыць мяне гарачымі
промнямі сонца,
нібы пацалункамі маці ў далёкім дзяцінстве.
Ветлы, узрушаны
дзень расце на вачах, расчыняецца і
ператвараецца ў невераемны
свет любові, пяшчоты і цеплыні, —
ад лістоты да карэння,
такі шчодры, што адчуваю,
як і я разрастаюся
каранямі — у нябёсы.

* * *

У прыгаршчах нясу я вугалі
Да роднага бацькоўскага парога.
Я да яго іду, нібы да Бога.
Іду з паклонам. Ці дайду калі?

Абложнай хмарай леты праплылі.
Не засталося б светлага нічога,
Каб не яна — бясконцая дарога
Дадому ды ўспамінаў вугалі.



## Эцюд

Сонейка за далягляд адплывае.
Сцелецца густа над рэчкай туман.
Вечар у росах вярбіну купае,
З кветак і зорак тчэ ночы дыван.

Пчолы кружляюць навокал і восы.
У паднябессі звіняць жаўрукі.
І перад гэтым, узвышаным, босы
Хлопчык бяжыць да нябёс напрасткі.

## Паляванне

Як толькі заднее, у пушчу пайду я...
Сусед мой дзіка ці казулю ўпалюе.
Дамоў прынясе ён, шчаслівы, вясёлы,
Халодныя, белыя сцёгны жывёлы.

А я не ўпалюю ні птаха, ні звера,
Туман прынясу, што ўздымаецца, шэры,
Гаворку крыніц, курапатчыны пёркі,
Кавалачак неба і ясныя зоркі.



## Град

Трываць немагчыма, ані.
Ды чым тут жывому паможаш?
З нябёсаў ляцяць камяні
На дрэвы, на травы, на збожжа.

На бомы вясны, першацвет,
Што гэтак раскрыліўся міла.
Увобміг счарнеў белы свет —
Змяло, паламала, пабіла.

На яблынях нават няма
Лісточка, куды ўжо пялёсткам!..
Вярнулася быццам зіма
Старою вядзьмаркаю ў вёску.

## Вясна

1

Усё цвіце: вішнёвы сад за рэчкай,
Зялёны луг, і двор, і мамін дом.
Каштанаў мройных жоўценькія свечкі
Лагодна ахінаюць нас святлом.
Усё цвіце. І радуе нам вока.
Свет ажывае, цінькае, расце.
Стракоча ў соснах весела сарока.
Зязюля лічыць дні... Усё цвіце.

2

Ліў ноччу дождж,
а ранкам стала ясна.
Яшчэ нядзельная лянота на грудзях
спіць, і не хочацца ёй прачынацца.
Званы звіняць.
Выходжу на падворак.
О, як прыгожа:
у квецені ўвесь сад,
дымок віецца з коміна пад купал неба,
нібыта крылы залатых анёлаў.
І ўсё здалося мне такім маленькім:
і хата, і падворак, і сусед,
што корпаецца на агародзе —
капае пад цыбулю, моркву градкі.
Тук-тук — аб глебу грукае рыдлёўка.
Тук-тук, тук-тук — у нябёсах гукі чую.
— Сусед, сусед! — крычу яму. —
Пастой!
Спявае неба, ды яскрава гэтак...



— Ну што вы, што вы, — так спалохана. —
Мне не чуваць.
— Я чую голас дудачкі і скрыпкі...
— Не можа быць!
Ах, мой сусед руплівы —
Тук-тук — абедзвюма рукамі
дзяўбе рыдлёўкай.
Перашкаджаць не буду...
Тук-тук, тук-тук —
высокае спявае неба.

## Ранішні краявід

Пасу світанак. Так напеўна дровы
Патрэскваюць у ветлівым кастры.
Усход, нібы ружовыя каровы,
З туману выплывае, з-за гары.

Люляе цішыню павеў ласкавы,
І хмеліць брагай сена свежы стог.
Усход ідзе наўсцяж па звонкіх травах
І росы абтрасае сотняй ног.



## Святая ноч

У прыцемках спявае салавей.
Заблыталася поўня ў павуціне
Халодных зор. Туман сівы плыве,
Нібы сумёты, і паціху стыне.

Зрок цешыць у гняздзечку птушаня.
Крамяны яблык чара налівае.
Святая ноч на крохкіх даланях
Свет зmoраны, таемны свет люляе.

# УБАЧЫЦЬ НЕБА

* * *

Пытаеце, дзе я згубіўся,
чаму мяне так даўно не было,
дзе мяне насіла?
Адкажу,
што збіўся я са шляху,
спатыкнуўся аб камень,
доўга ляжаў пад снежнай коўдрай,
чакаў,
калі сыдуць снягі
і прыйдзе вясна...
Ды прамаўчу пра тое,
што я проста
закахаўся.



## Наіў

Каханая!
Ты хаваешся ад мяне
ў цемрыва ночы.
Наіўная.
Хіба ты не ведаеш,
што за ноччу
абавязкова прыходзіць дзень?..
Абуджаю пацалункамі
сонейкі
грудзей тваіх.

## Гульня

Ведаю: ты недзе ёсць!
Бо ёсць прастора і час,
у іх ты можаш схавацца ад мяне.
Толькі, прашу, занадта
не захапляйся гэтай гульнёй,
каб у часе тым
і не ў маёй прасторы
назаўжды
не застацца.



## Убачыць неба

Крочым па воблаках
                              удалячынь...
Ты і я.
Не можаш уявіць сабе.
Кажаш, што я ненармалёвы.
А я і не аспрэчваю.
                              Бывай!
Не здольная ўбачыць неба
хіба можа пасяліцца ў сэрцы?

## Немагчымае

Нарваць на нябёсах
прыгаршчы зорак.
Лёгка!

Затрымаць адвячорак.
Можна!

Зразумець жанчыну...



## Суседка

1

Як бачу я плечы яе і мадонны аблічча, —
Нямоты нястача, абдымкі мае яе клічуць.
Трымціць маё цела, палонена палкім жаданнем.
Быць хочацца смелым, вачэй дакрануцца дыханнем.
Паненкаю стала. Была дзіцяняткам, суседкай.
Хоць вырасла ўжо, ды яшчэ не раскрылася кветка.
Дзіця, што ў князёўны ўвабралася лёгкія строі,
І ёй нецікава цяпер захапляцца гульнёю.
Карысці няма ў ланцужках залатых зіхатлівых.
Ці могуць прымусіць мужчыну яны быць шчаслівым?..
Не жэмчугу ніці мужчынскай душы асалода,
А цела жаночага ранішні сонечны водар.

2

Суседка мая! У акно зазірнула зноў лета.
Маю маладосць і каханне напомніла. Дзе ты?
Духмяныя кветкі, маланка бліскучая, ложак.
І з ружаў вяночак дзявочыя грудзі ўпрыгожваў.
Уздыхі і ласкі. І слоў залатое праменне.
Так ноч праляцела, нібы праляцела імгненне.
А ранкам прачнуўся: няма, ты згубілася ў вёснах,
І толькі адзін на пасцелі прымяты пялёстак.

3

Суседка мая! Ад мяне ты далёка-далёка.
Нябёсы засланы густою начной павалокай.
Грувасцяцца хмары, сутонне зямлю абдымае.
Мінаецца ўсё. Ды кахання святло не згасае.
Ты ў Мінску, напэўна, цяпер або ў іншым дзе
месцы.
А я пра цябе ўспамінаю так часта ў Бярэсці.
Сяджу ля каміна і мару пра дзіўную кветку...
Жанчынаю стала мая дарагая суседка.



* * *

Вясновы сад люляе цішыню.
Пад зорным небам засынае вёска.
У полымі бялюткага агню
Кружляюць яблыняў і груш пялёсткі.

І чуецца над намі неба звон,
Плывуць аблокаў лёгкія чароды —
Мінулага міраж, ці, можа, сон,
Былых пачуццяў цёплы весні подых.

І ажываюць успаміны зноў:
І ласкі маладыя, і пяшчоты.
Усё прайшло. Ляцяць пялёсткі сноў,
У пространі знікаюць незваротна.

* * *

З табою мы за небакраем.
Крычыш, гарэза: «Даганяй!»
Я ўслед табе крычу: «Кахаю!»
Прашу ў нябёсаў: «Не знікай!»

Гуллівы смех то льецца рэхам,
То рыбкай плешчацца ў вадзе.
А я спяшаюся за смехам
І не знайду цябе нідзе.

То побач ты, а то знікаеш,
Між хмараў сонейка нібы.
З табою мы за небакраем,
Дзе ні маркоты, ні журбы.



## Падумалася...

Ныркулі ў абдымкі
жаночыя плечы...
А мне падумалася:
Мілавіца ўзышла.

## Каб не расплюхаць…

Каля калодзежа
сустрэў каханне.
Нясу асцярожна,
каб не расплюхаць.



* * *

А помніш апошні
з табой наш раман?..
*Эдуард Акулін*

А помніш, якой ты адчайнай была
І незвычайна прыгожай,
Калі ўпершыню ў мой пакой увайшла
І моўчкі прысела на ложак?

Шапнула: «Нікому пра нас не кажы,
І стану табе я каханкай,
Бо мне без цябе ані дня не пражыць...»
І засталася да ранку.

І з плеч тваіх ціха сукенка спаўзла,
Як крыкнула каня за рэчкай,
І грэшная поўня ля ног узышла,
І воскам заплакала свечка...

І душы ў сусвеце кудысьці плылі,
І рукі на выгінах цела...
Як ярка на небе заранкі цвілі,
І гаснуць вясна не хацела!

* * *

Зор птушаняты. Мора снегу —
Шуміць, квітнее майскі сад.
Спагада рук. Душы кунега.
Вачэй вясёлкавы пагляд.

Трава прымятая. Раздолле.
І ціхі ўскрык, і рук цяпло...
Шкада, не вернецца ніколі,
Што адшумела, адцвіло.



* * *

*Любе*

1

Даўно не гаварылі на змярканні.
Не слухалі на золку салаўёў.
Ды стаў я адчуваць тваё дыханне,
Знаёмае такое, як сваё.

Нам не патрэбны словы пра каханне.
Пяшчотна гладжу рукі я твае.
І голас твой дрыготкі, і маўчанне —
Усё ў табе каханне выдае.

2

«Калі памру, — ты кажаш мне, — змірыся
І доўга не сумуй, знайдзі другую».
Жыць без святла — як жаўранку без высі?
Я не хачу і, пэўна, не змагу я.

Мне без цябе чужы куточак кожны
І горад шумны — бы пустынны востраў...
Стан любы твой абняўшы асцярожна,
Кажу: «Засні. Стамілася ты проста!»

3

Ты будзеш сніцца мне заўжды:
Завейным лютым, звонкім маем.
Твае забытыя сляды
Дачка напомніць маладая.

Дні праляцяць, мінуць гады.
І зразумею — дагараю.
Ты будзеш сніцца і тады,
Як будзе міг адзін да краю.

І нат калі падыдзе край,
З цялеснага памкнецца бруду
Душа ці ў пекла, ці то ў рай...
І там цябе я помніць буду.



## Навальніца

Перадгрымотная цямнота.
Заграздлі пахі ў ёй і гукі.
Спалохана дрыжыць лістота.
Маўчым. Твае цалую рукі.

Пагорачкі грудзей кранаю.
У высях грукнула нясмела.
На шыбы звонкая, буйная,
Бы камень, кропля паляцела.

Другая, трэцяя... Навалай
Б'е дождж цяжкі па вокнах коса...
Мацнее ён, і ўжо палаюць
Падлога, шкліны і нябёсы.

Ты ўся трымціш. Пачырванела,
Бы ў агародзе мак. «Кахаю!»—
Шапчу табе адчайна-смела.
А навальніца не сціхае.

## Пасля дажджу

Ліецца неба сінява,
Ракой цячэ.
Валошкі, сіняя трава.
І сінь вачэй.

У сінь ляціць, знікае з воч
Маёвы хрушч.
І сырадоем пахне ноч,
І кветам груш.

Стогн пугача за рэчкай сціх,
Цямнее бор...
Я здзьмухваю з вачэй тваіх
Сінінкі зор.



* * *

Агонь далоні апячэ.
А сэрца так адчайна б’ецца.
Ды хочацца яшчэ, яшчэ
Агню, каханнем што завецца.

Дрыжыць твая ў маёй далонь.
І ясачкі малой хапіла б...
Ён як маланка, той агонь,
Што птушкам апякае крылы.

* * *

Я кахаю... Мне зноў усміхаюцца вёсны,
І агонь разгараецца ў сэрцы маім.
Дык чаму ж ты маўчыш? Без цябе невыносна,
Без цябе летуценні ўваскрэслыя — дым.

Кроў бунтуе, кіпіць; сэрцу моцы не хопіць
Боль і крыўду стрываць? Вось-вось клапан
сарве...
І мне боязна: выдыхне з полымем попел
І ніколі-ніколі ўжо не ажыве.



* * *

Ідзі... Мне слоў тваіх пяшчотных мала.
З табою мала дзён мне і начэй.
Пакуль мяне святлом не расстраляла
Глыбокая вясна тваіх вачэй.

* * *

Вясна. Такі харошы дзень!
Над намі галубы буркуюць.
Радзімкі ў сподачках грудзей
Тваіх, бы ягадкі, смакую.



## Заблудзіўся

Не ў зялёным веснім садзе,
Што нібы зялёны дым,
Заблудзіўся я ў паглядзе
Ясным, сонечным тваім.

Нібы ў трох у полі соснах,
Нібыта ў жытах густых,
Я згубіўся ў хмельных вёснах,
Залацістых, маладых.

Ад змяркання да світання,
На вяселле ці бяду,
Заблудзіўся я ў каханні.
Шлях дадому не знайду.

* * *

«Кахаю!» — шапчу, як замову.
Блакітны плыве адвячорак.
Пяшчотнаму гэтаму слову
Ты верыш. Ты ўся, нібы порах,

Успыхнеш вось-вось. Зняў твой станік.
Ты грудзі рукой засланіла.
Здзіўленне ў вачах, хваляванне,
А ў сцёгнах і гнуткасць, і сіла.

Аслеплены сонцам, заўзята
Нектар п'ю жаночага цела.
Хлушу я... А хіба сама ты
Падманутай быць не хацела?!.



* * *

Вы пра мяне не знаеце нічога:
Што я насупраць дома Вашага якраз
У гэты час начны, ля Вашага парога,
І што даўным-даўно кахаю Вас.

Вы, пэўна, зараз у палоне муз,
А пад акном ліхтар гарыць, не згас.
Зайздрошчу лютай зайздрасцю яму:
Шчаслівы ён, ён бачыць кожны раз,

Як мыеце Вы валасы (я сам
Так прагну песціць іх), як сцелеце пасцель,
Як засынаеце. Заўжды ён свеціць Вам.
А я, хто я? Ягоны толькі цень.

* * *

Чакаў я снегу, як калісь даўно
Чакаў твой ліст. А снег пайшоў сягоння.
Кружыліся карункі за акном
І падалі ў бялюткае бяздонне.

З канверта чысты аркуш я дастаў.
Ні слова там, а толькі пах парфумы.
Губ сакаўных я споведзь прачытаў,
Дрыготкіх і амаль з дзіцячым сумам.

А мне свой сум нікуды не падзець,
Бо лебедзь ты, а я — як воран чорны.
Снег сыпаў з неба шчодра цэлы дзень,
А мы не патанулі ў ім учора.



## Каханне

Яно прыйдзе да мяне.
Аднойчы.
Лязом шмаргане
па скуры,
па скронях,
па венах,
па сэрцы...
І я зразумею,
што мяне больш няма,
што я памёр,
а душа мая
ў разломах нябёсаў
будзе лётаць, як сон.
І пойдзе дождж.
І амытая ад грахоў
душа вернецца.
І я ўваскрэсну.

* * *

Калі мяне пакінеш ты,
Прастору спапяліць маланка.
Нямотным абуджуся ранкам
І ўбачу свет вакол пусты.

Калі пакінеш ты мяне,
Больш не зацепліцца дзень весні.
І, нібы шар, планета трэсне.
Гром горад мёртвы ўскалыхне.

І ўсё надрыўней, галасней
Застогне ліўнева навала...
Так думаў я. Цябе не стала,
А я жыву, як і раней.



* * *

Сам жорстка пакараў сябе —
Сам пасадзіў сябе за краты
І сам жыву ў сваёй журбе.
А ты ні ў чым не вінавата.

У злосці лютай і кляцьбе
Ты практыкуешся заўзята.
Прыдумаў, мілую, цябе,
А ты ні ў чым не вінавата.

Ні ў мольбах, ані ў варажбе
Нам не вярнуць ніколі свята.
Любові зерне пры сяўбе
Засохла. Ты не вінавата.

Што здрады воран мне дзяўбе
Вачніцы, за наіў мой плата.
Усё дарую я табе,
Бо ты ні ў чым не вінавата.

* * *

На падворку мяце лістападу завея.
А ў кавярні жыццё нетаропка цячэ.
Пані, віскі наліце, хай смутак развее,
Дапаможа забыць здраду чорных начэй.

Адцвілі, як вясна, маладосць і каханне.
Сорак год прамінула, нібыта адзін.
Вы прысядзьце за стол мой, шаноўная пані,
Абудзіце пяшчоты былой успамін.

Весялосць навакол, а душа як на шалях.
Што каму да ўспамінаў маіх і турбот!
Вы таксама, прызнайцеся, пані, кахалі.
Ды чаму позірк ваш нежывы, нібы лёд?

Маўчыце. Вы разгублены? Мне ні паўслова...
І лаўлю я з трывогай грудны ваш уздых.
Мне, паверце, і ўсмешкі адной дастаткова,
Каб да восені гэтай халоднай прывык.



* * *

Вы зблыталі мяне з другім.
Тым, што яшчэ ў юнацтве зналі.
А я ўсяго — ягоны дым.
Вы дым гаркавы пакахалі.

І свята верыце ў падман...
Чужыя мы на гэтым балі.
Світальны жнівеньскі туман.
Туман вы, пані, пакахалі.

А той, адзіны, той другі,
Каго вы ўсё жыццё шукалі,
Той любы, родны, дарагі
З другой танцуе ў іншай зале.

## Начны званок

Званю табе.
Слухаўка крэкча.
Чую:
Старэчы голас, нудны і пусты.
Ці, можа, лічбу я набраў не тую?
Ці нечы жарт?
Ці не ў гуморы ты?

Званю ізноў:
— Алё, алё! — гукаю.
Да нематы крычу, да хрыпаты.
Цябе мне не стае былой...
Кахаю!
І зноў гудкі.
Мяне не чуеш ты.



## Пустата

Пустата. Вінаваты хто ў гэтым, скажы,
Што чужою ты стала і я стаў чужы?
Што з'яднаць немагчыма ў адну дзве вясны,
Дзве душы, бо даўно ўжо чужыя яны?
Не мая ты цяпер, я таксама не твой,
Хоць плывём у сямейнай мы лодцы адной.
Бо ўжо сталася так: гэту звыклую плынь
Супыніць немагчыма, і думаць пакінь!
Паглядзі, нашы дзеткі як хутка растуць.
Пра расстанне маўчы, ані слова, забудзь...
І, шануючы шлюб і сямейны спакой,
Будзем ціхенька плысці мы ў лодцы адной:
Ты на ўсход, я на захад, а потым — зіма!
Без кахання... Страшней гэтай праўды няма.

## Абыдзеныя каханнем

На твары — маска весялосці.
Усмешка шчасця напускная.
Яны ва ўласным доме госці.
Іх душы зайздрасць раз'ядае.

Сустрэўшы ў садзе закаханых,
Адводзяць палахліва вочы.
Не здзівіць іх вясновы ранак,
Абуджаны вясной званочак.

Бы ў склепе змрочным, гэтак пуста
У душах іх. А засынаюць —
Іх сон кранаецца распусны,
Ды ў рэшце рэшт і ён мінае.



## Адведзіны

Сустрэліся мы з ёю выпадкова
ля крамы «Мяса».
Прыгожая і ладная кабета:
завершаная, дасканалая.
І рухі ў яе і цырымоннасць.
І вытанчанасць цела:
твар, шыя, грудкі, стан.
І вочы мела шэрыя, такія —
я марыў пра такія ўсё жыццё.
Разгаварыліся... У госці запрасіла...
І вось нарэшце
раптоўна завітаў я да яе.
У пакой зайшоў і павітаўся.
Не адазвалася ні словам.
І выгляд мела, нібы памірае.
Руку мне працягнула.
Так гаспадыня
сабаку костку падае.
А потым пахіснулася.
Яе я падтрымаў, каб не ўпала,
і ў крэсла моўчкі пасадзіў.
У асветленым пакоі
мярцвяк сядзеў.
Зрабілася мне млосна.
Я адвярнуўся.
Узіраўся доўга на сцяну,
шукаў адбітак той,
святой, адзінай,
на ўсё жыццё — ды не знаходзіў.
А бачыў толькі цвік,
з якога зняты
абраз.

* * *

Цень Ваш быў на павароце —
Праплылі, як цень, бязмоўна.
Я пазнаў Вас па самоце
І па ўсмешцы Вас успомніў.

На імгненне побач сталі —
Промнем бліснулі калені.
Вы мяне калісь кахалі —
Там, у іншым вымярэнні.

Я пазнаў Вас па пярсцёнку,
Што на мезенцы насілі.
Мужам мы былі і жонкай...
Ах, а Вы мяне забылі.



* * *

Спякотны летні дзень. Канары.
Гарцуюць рыбкі на вадзе.
Паненка з загарэлым тварам
Насустрач паваю ідзе.

Век цэлы пра такую марыў!..
Прачнуўся... Летнік. Паплавы.
Канава. Жабаў крык пачварны
Грыміць у зарасцях травы.

* * *

Яно аднойчы зробіцца атрутай,
Каханне, чым калісьці даражыў,
І, зубы сціснуўшы, як звер загнаны, люта,
Ты будзеш жыць, як і раней ты жыў.

Ты будзеш усміхацца і смяяцца,
Адводзячы тугу вачэй няўзнак,
Не спаць начамі, думаць да вар'яцтва,
Што можна, ўрэшце, існаваць і так.



* * *

Ілюзія. Падман.
У грубцы попел стыне.
Сышлі Вы, як туман,
Нібы міраж пустыні.

Вас болей не абняць.
Вы — воблака, Вы — пена...
Не варта смуткаваць
Па тым, што стала тленам.

* * *

Восень. Холадна і скрушна.
Снег трымціць над хатай белы.
Чарада апошніх птушак
Разам з лісцем адляцела.

Плот макруткі. Чорны воран
З крыкам у імгле знікае.
Ты была са мной учора.
Ноч адзін я сустракаю.

Дзе ты? З кім ты цноту дзеліш?
Дзе твае лунаюць крылы?..
Стыне цень твой на пасцелі,
Што паспешліва забыла.



* * *

Ты думаеш, што ты мяне пакінула, —
Дык гэта я быць не хачу з табой.
Ну хто сказаў, што без цябе загіну я?
Я, нібы дрэва лютаю зімой,

Перацярплю завеі і марозы,
І снегападу ледзяны пажар.
Ну хто сказаў, што буду ліць я слёзы?
Гэй, паглядзі на мой спакойны твар.

* * *

Ты жалішся мне на прастуду,
На тое, што жывеш адна.
Гарбата выстыла ў фаст-фудах.
Узвары з траў замест віна.

Цыгаркі модныя не паліш,
Не любіш моднае кіно.
Ахутаў плечы цёплы спальнік.
Успамінаю, як даўно

Свой гардэроб ты не мяняла,
Аловак не кранаўся вей.
Ты лебедзем пушыстым стала,
А я люблю ільвіц і змей.



* * *

Гэта ты, гэта зноўку ты.
Зазірнула пужлівай зданню
У пакой, без цябе пусты
І самотны, пакой кахання.

На агонь, нібы матылёк,
Прыляцела. І вось — знікаеш.
І дрыжыць і мярцвее крок,
І бяссільны мой крык адчаю.

Не прабіцца мне да цябе,
Бо не лямпа — душа памеркла.
Поўні кола глыбей, глыбей
Пагружаецца ў спрат люстэрка.

* * *

Прайшло каханне — той парою,
Калі з палёў сыходзіў снег;
Забрала назаўжды з сабою
Вясновы позірк твой і смех.

Прайшло каханне. Згустак болю.
Свой смутак я тушу вiном.
У сэрцы пуста, бы ў касцёле,
Дзе не маліліся даўно.



## Мроі

Была зіма. На вокнах крышталёвых
Гарэў агонь, такі празрыста-белы.
Душа насустрач дню яшчэ нясмела,
Паволі выплывала з сну-аковы.

Мне сніліся квяцiсты сад вясновы,
Венерына спакуслівае цела —
Яно плыло, узвышана трымцела
У новых формах і выявах новых.

Прываблівай паненкі грудзі-чары
Мне сніліся, паўнюткія, як соты...
Прачнуўся. Анікога. Змрок звычайны.

Камін пагас. І холад адзіноты.
А дзе ж каханне, пра якое марыў?
Ісці на працу час — дамрою потым.

## Госця

Яна буркоча, як галубка.
А за акном цярушыць снег.
Даўно астыла кава ў кубках.
Не гасне лямпа на акне.

На шыі — пацеркаў крынічка.
Радзімка на яе плячы
Гарыць, застыла светлай знічкай
І вабіць... тайнаю начы.

Трымціць агонь няўцерпных вуснаў.
Жарсць выдае вачэй пагляд.
І спее хцівы і распусны
Яе жаданняў весні сад.



* * *

Я ляжу на пляжы Мухаўца. Побач у бікіні
Шакаладныя дзяўчаткі пасміхаюцца міла.
Прыкрываю рукою трусы, каб не закарацiла.
Аквалангісты на пірсе нырцуюць у глыбіні.

Гудзе, нібы вулей, плешчацца рака...
Ноччу прысніцца:
                    выходжу з глыбіняў на пляж я,
Нясу тапельніцу на анямелых руках —
Спакусу сваю, неспатольны свой грэх учарашні.

## На ўсе сто

Яна такая сімпатычная,
слічная-слічная.
Прысела са мною побач
на канапу з краю.
Наэлектрызаваная,
дужая фізічна.
І адукаваная такая.
Такая высокая,
гоская, збітная.
І пахне прыемна —
вясною.
Адразу бачна —
жанчына элітная.
Я б з ахвотай з такою...
Толькі гэта ўсё —
з мараў.
Хоць ёсць яшчэ
ў маёй парахаўніцы
порах,
ды няма ў кішэнях маіх
ста даляраў.



* * *

Адны застанемся з табой.
Хай свечка палае да рання.
Пяшчотай напоўнім пакой
І вершамі пра каханне.

Хай вымкнецца ноч з берагоў,
Растворыцца ў зоркавым ззянні.
Цябе атулю срэбрам слоў
Ці мовай святой маўчання.

У сэрцы збудую я храм
Высокі, як ты таго хочаш,
Дзе можна без боязі нам
Нябёсам глядзець у вочы.

# ПА БЕЛЫМ ПОЛЫМІ РАКІ

* * *

Сплываюць хвалі мройныя гадзін.
Знікае дзён негаманкое веча.
Гады мінаюць. Я стаю адзін
На плошчы часу і ў Калядны вечар.

Стаю, маўчу. А навакол — зіма.
І вецер ломіць нежывое сучча.
Я затуліцца прагну, ды дарма —
Мне снег у твар, халодны і калючы.

На ўсім завея пакідае след.
Азяблай ночы рассцілае ложак.
Адзін з’явіўся я на гэты свет,
Адзін і ў свет няісны адыходжу.



## Не страшна...

Не страшна памерці.
Страшна
жыць мёртвым.

## Свет пастарэў

Над восеньскім лугам вісне
сівая каня —
свет пастарэў.



* * *

Па белым полымі ракі
Бягу. Вятрыска завывае.
І след, няўпэўнены такі,
За мной завея замятае.

Паўсюдна снегу курганы.
Пад снегам — ломкі лёд гарачы,
Грыміць, нібыта перуны.
Адно маланак не пабачыць.

Ніводнага не адшукаць
Агню наўкол — снег слепіць вочы.
Вось трэсне лёд. Паўсюль — рака.
І мне яе не пераскочыць.

* * *

Былога не вернеш
Ты, хочаш не хочаш.
Зор сыплецца зерне
Праз рэшата ночы.

Ты позіркам раніш
Халодным, як восень...
У золкім тумане
Ноч каняй галосіць.



## Студня

Капаю студню —
у вышыню.
Неба рака
цячэ насустрач.

## Вароны

На соснах згорбленых вароны.
Туман плыве, як з лазні пара.
Наўзбоч лужок, яшчэ зялёны.
Над горадам гусцеюць хмары.

Дождж хлынуў, ліпкі і халодны,
Мне ў твар. Маланка слепіць вочы.
На дрэвах чорныя вароны
Сядзяць, нібыта здані ночы.



## Адчай

Рака ўтапілася ў глухім балоце.
Азяблая антонаўка плады
Рассыпала. Макруткі куст на плоце.
Размоклі ў полі маміны сляды.

І ты, душа, раскісла, нібы глеба,
Стамілася. Плыве туман густы.
З пахмурнага знясіленага неба
Спадаюць хмар размытыя лісты.

* * *

Халодны вераснёўскі дождж
Накрыў надоўга горад сонны.
На змрочным небе ўшыр і ўздоўж
Навіслі хмары, бы праклёны...



* * *

Сярэдзіна жыцця твайго зямнога.
А што за ім — бязмоўнасць, забыццё?
Палае сонца летняе. Знямога.
Не абяцае радасці жыццё.

Сляза ў вачах. І горыч рэжа грудзі.
А жаваранак звонка запяе —
І ты ім залюбуешся, забудзеш
Пра ўсе зямныя марнасці свае.

* * *

У слоік чысты малака
Налью і моўчкі пасміхнуся:
Свет белы пешчу я ў руках.



* * *

Прыпыніся! У сэрцы кальне.
Сціснe грудзі да болю трывога.
І пара б супакоіцца мне,
Так стаміла дарэшты дарога.

Не спяшайся! Давай памаўчым.
Курганок сінь марозная ліжа.
Супакоімся хутка зусім
Пад асвечаным зоркамі крыжам.

* * *

> Люблю адзіноту скразную...
> *Леанід Дранько-Майсюк*

Люблю я адзіноту тую,
Той боскі, велічны спакой,
Калі ніхто не патурбуе
Ні добрай весткай, ні ліхой.

Калі не ціснне мне на плечы
Цяжар штодзённы. Цішыню
Люблю. Ціхутка каля печы
Прыладзіцца каля агню.

І слухаць так, нібы замовы,
Да грубкі цягнучы далонь,
Як весела з марозу дровы
Трашчаць і як пяе агонь.



* * *

Святую Біблію чытаць бясконца можна.
«Месія», «пакаянне», «Бог», «любоў» —
Дзясяткі прачытае хтось разоў,
І новы сэнс штораз у слове кожным.

Так вершы. Прачытаў іх — і спярша
Задумайся над тым, што ў словах гэтых.
Паэзія не змест, у ёй душа
Біблейскага самотніка — паэта.

* * *

Паспець бы гэты дзень дажыць,
Што льецца песняй салаўінай.
І дакахаць, і далюбіць
Усіх, каго калісь пакіну.

Жыцця сцяжынку даснаваць
Дай мудрасці і сілы, Божа,
І зразумець, і даравfamilyць,
Бо крыўда — дрэнны спадарожнік.

На паўдарозе не згарэць,
Ні попелам не стаць, ні ценем.
Сказаць «даруй» зямлі паспець,
Пакуль на свеце ёсць імгненні.



* * *

Нядаўна ліўся птушак спеў вясновы,
Лісцё на дрэвах пышна зелянела.
Агледзеўся — сляды зімы суровай:
Пустыя гнёзды, снег кладзецца белы.

Няма цяпла і велічы той болей,
Што цешыла мой зрок. І не прабіцца
З-за хмары сонцу. Ломіць вецер голле,
І вые беспрытульна аканіца.

* * *

Клін развітальны — восені вястун.
Над рэчкай туманы, нібы аблогі.
Ды і яны запоўніць пустату
Палеткаў і душы маёй не могуць.



* * *

Бяда прыйшла. У твар глядзіць варожа.
І я — што непрыкаяны той цень.
Карай чым хочаш, ды не дай нам, Божа,
На гэтым свеце перажыць дзяцей!

Не радуюць ні кветкі, ані зоры.
Так змрочна на душы, хоць закрычы.
Навошта ўсё, калі сынок мой хворы
І не магу яму дапамагчы?

Ляжаць самотна вуды на балконе.
Чакаюць нас. І дождж у поўдзень сціх...
Мы разам з сынам на раку сягоння
На ясным золку марылі пайсці.

## Расколіна

Расколіна на сэрцы.
Пустэча на душы.
І, як збавення, смерці
Чакаеш у цішы.

Не бразнуць глуха дзверцы,
І не чутно машын.
Расколіна на сэрцы.
Пустэча на душы.

Жывеш у паняверцы —
Не дасягнуць вяршынь!
Расколіна на сэрцы.
Пустэча на душы...

Адно — ратуюць вершы,
Што выспелі ў цішы.
І радасна — на сэрцы,
І шчасна — на душы.



* * *

З бяздушнай выйшаў клеткі цеснай
На волю я, дзе ў красках луг,
Дзе хмарак цень рахманы, весні
Пасе на выгане пастух,
Дзе навальніцаў спее подых,
Дзе ціша з траваў прарасла.
Дзе пад высокім небам родным,
Як лёс Айчыны, — крыж бусла.

# Чаўнакі

1

Ад панядзелка да суботы
Спяшаемся, бы чаўнакі,
То на работу, то з работы,
У кроў збіваем ступакі.

А важнага не заўважаем,
Здаецца дробяззю яно:
Як цягнецца з зямлі густая
Трава да сонца; за акном

Як клён сталее, спеюць зоркі
І рвуць асфальты карані...
Не разумеем ілюзорнай
Сваёй штодзённай мітусні!

2

Сям'я, работа, сон, работа.
Зноў сон, работа і сям'я.
«А жыць калі?» — пыталі. «Потым, —
Адказваў, — шчэ паспею я».

Жыцця гадзіннік раптам змоўкнуў.
Памёр. У роспачы сям'я...
І не паспеў схадзіць на золку
У гай паслухаць салаўя.



# Матылёк

*Максіму Багдановічу*

Гуллівы дождж раптоўна знік.
На ветры скрыпнулі вароты.
Прырэчнай кані сумны ўскрык
Стралой у дом ляціць дрыготкі.

І нехта грукнуў за сцяной,
Заскрыгатаў натужна ключык.
Як зуб, што рэжацца з крывёй,
Слых абвастрыўся мой балюча.

Прыслухаўся — ляціць здалёк,
Нібы агонь жывы, здаецца,
Мой легкакрылы матылёк
І ў павуцінні часу б'ецца.

## Ялта-1917

Зорка Венера ўзышла...
Што ж ты, Максім, занядужаў?
Чуеш узмахі крыла —
Лебедзь Страцім недзе кружыць.

Чуеш, як сосны шумяць?
Неба халоднага верад.
Хочацца жыць і кахаць,
Хочацца ў лепшае верыць.

Твой васільковы пагляд.
Вечнасць. Адчынены дзверы.
Белы квітнее там сад...
Зорка Венера...



* * *

Менш і менш антонавак у садзе,
Бэры сакавітыя пагорклі.
Холад у валошкавым паглядзе.
Шызы попел там, дзе ззялі зоркі.

І душа з душой цяпер не ў ладзе.
Адцвілі світанкі. Адвячоркі.
Запусценне ў яблыневым садзе.
Яблыкі салодкія пагорклі.

## Восеньскі эцюд

На полі восеньскім не пуста.
Дождж нудны крапае. Імжа.
Галовы ссечанай капусты,
У купу складзенай, ляжаць.

Ля воза мех стаміўся бульбы.
Ад колаў — гразкія сляды.
І шчэрыць на малодак зубы
Гуллівы конік малады.

Стаяць вароны войскам грозным.
З іх горлаў рвецца крык тугі.
І высяцца на рыжых пожнях
Саломы скошанай стагі.



* * *

Так, любая мая, я — валацуга.
І дома мяне ўвесну не ўтрымаць.
Іду за Буг. А там, за сінім Бугам,
Такі прастор — вачамі не абняць.

А там, за Бугам, — воля. Гукам кожным
Яна мяне чаруе і заве.
Там, у туманах вечных і прыгожых,
Русалка срэбнаскурая жыве.

Дажджбог там на аблоках спачывае,
Лясун у ціхім золку будзіць гай.
Ну чым не казка?! Лепшай не бывае.
Мо ты і лепшая, але — бывай!

* * *

Дзе яна, тая рыса нябыту,
За якім даляглядам, пагоркам?..
Пяцьдзясят, а не жыў я нібыта.
І трывожна на сэрцы, і горка.

Лістападу хаўрус. Белы іней.
Пакрываюцца лужыны лёдам.
І паціху душа мая стыне,
Нібы Буга вірлівыя воды.



* * *

Зляцела і няпрошана лягла
Яшчэ адна самоцінка на сэрца.
Бракуе лета звонкага, цяпла.
Нудотны вецер глуха ў голлі б'ецца.

Няма агню. А лістапад гарыць.
Прыгнечаны, іду счарнелым садам.
Дажджом халодным стыне дзень стары,
Мяне сустрэў, ды і яму я рады.

## Цягнік

Ляціць на поўнай хуткасці цягнік,
І стрэламі праносяцца вагоны.
На стыках колы грукаюць шалёна.
І звар'яцелы з вокан чую крык.

Цягнік спыніцца просяць на хвілінку:
Там чалавек, там курчыцца дзіця!
Ды марна ўсё. У цягніку жыцця,
Як ні малі, на жаль, няма прыпынку.



* * *

Кладзецца груз гадоў на спіну,
Усё цяжэй, самотней мне.
Душы сціскаецца спружына
Усё мацней, мацней, мацней.
І сілы ўпарціцца ўсё меней,
Здаецца, шчэ хвіліна, міг —
І лопне, як пухір, цярпенне,
Злосць выплюхне з грудзей маіх
Шыпучаю атрутнай слінай,
І страчу я і слых, і зрок.
І нерваў сціснутых спружына —
Нібы ўжо цісну на курок.

* * *

Нудна цікае гадзіннік.
Хутка поўнач. Сумна мне.
Восень. Муха ў павуцінні
Паміж рамамі ў акне.

Бзымкае, на волю рвецца,
Ды не вырвецца ніяк.
Б'е крыламі. Мне ж здаецца,
То не муха — гэта я

Між халодных рамаў змрочных
Трапіў у шкляны палон, —
Так заблытаўся аднойчы
Ў шэрым павуцінні дзён.



* * *

Не, не паўторыцца нічога
На гэтым свеце маладым.
Бо кожнаму — свая дарога.
І мы з табою — весні дым,

Што ў просінь з коміна шугае,
Клубіцца кветам залатым.
Калісь мы знікнем, як знікае
У паднябессі гэты дым.

За намі з'явяцца другія, —
За нас жыццё прадоўжыць ім, —
Падобныя, ды не такія,
Як я,
    як ты,
        як гэты дым.

* * *

Навошта я жыву на свеце?..
Куды ні глянь — бяздушша мур.
Грукоча гром, і стогне вецер.
Так трэба! Трэба! А каму?

Бы сузіраю сон пачварны.
Кранаю цемрадзь я рукой.
Навісла думка чорнай хмарай,
Маланкай бліскае начной.

Як вогнішча, палае неба.
Гарыць і сад, і Божы храм...
Быць чалавекам, кветкай, глебай
Ці дрэвам — вырашаць не нам!



## Сон

Пра што пісаў — пустым здалося раптам,
Нікчэмным... Беглі дзеці ля ракі.
Сабака спаў, у одуме на лапу
Паклаўшы пысу, як барон які.

Звінеў у небе жаваранак божы,
І радасна трымцелі матылькі...
Ішоў за плугам я. За мной прыгожа
Раўнюткія ўзыходзілі радкі.

* * *

Не да царквы іду, панове!
Ва ўсім, паўсюдна Бог жывы.
У поле, луг іду на споведзь
Я да рамонкаў і травы.

Да птаства, што кружляе ў небе.
Да хмаркі, што кудысь плыве.
Мне іншай споведзі не трэба.
Ва ўсім, паўсюдна Бог жыве.



* * *

Адно і тое ж сонца свеціць,
Падобныя ўсе ночы, дні, —
Ты кажаш... Не! На гэтым свеце
Усё мяняецца. Зірні.

Вунь за акном стракоча конік
Смялей — слых вечар навастрыў...
І я, прачнуўшыся сягоння,
Ужо не той, што ўчора быў.

Аблокі закружлялі ў танцы,
Яснеюць неба берагі.
І нават смак вады мне ў шклянцы
Як смак жыцця, зусім другі.

* * *

Перакуліць бы час назад,
У свет дзяцінства светлы-светлы,
Дзе ціхі, развяснелы сад
Клубіцца воблакам на ветры.

Ні мітульгі дзе, ні турбот,
Дзе мама, гожая такая,
Стаіць пачціва ля варот,
З рук сонца ў неба выпускае.

Дзе казкай дзіўнай зарапад,
А мары хмаркамі ўзняліся.
Перакуліць бы час назад,
У тыя далячыні, высі!..



* * *

Зграбаю лісце. Вогнішча кладу.
Гарыць лісцё, і думка ціха тлее:
Бы гэты ліст, згару і я, сыду...
Жыць застанецца
ў парастках
надзея.

* * *

Жыццё, як і каханне,
Аднойчы праміне.
Калі мяне не стане,
Не трэба слёз па мне.

Што гэты свет пакінуў,
Не трэба гараваць.
На нейкую хвіліну
Я выйшаў пагуляць.

Няма на свеце смерці.
Ёсць вечны часу рух.
І вы таму не верце,
Хто скажа: «Ён патух,

Зашмат зважаў на стому,
Паклёпы і бяду...»
Я проста выйшаў з дому.
І хутка я прыйду.



# ЖВІРЫНКІ

* * *

І камень стары ўвесну
адчувае сябе
гарой.

* * *

У сланечнік
схавалася
сонца.

* * *

Якая прыгожая няволя:
краскі ў гаршках
цвітуць.

* * *

У жабрацкай шапцы —
сонцы:
медзякі зіхцяць.

* * *

Дым цыгарэтны.
Дух
самагубцы.

* * *

Не стала мамы...
І зоркі на небе перасталі
зіхацець.

* * *

Стары магільнік.
Кукуе зязюля —
у іншасвеце.

* * *

Нясу на плячах
адзіноты
поўню.



* * *

Шматкроп'е —
бурбалкі
на правадах.

* * *

Не пусцеюць
амбары
часу.

* * *

Ад сябе ўцякаю —
пусцею
ўсярэдзіне.

* * *

Лёгкае
воблака
сноў.

* * *

Захінуўся
ў роспач
вецер.

* * *

Сасмяглыя зоркі
п'юць
рэчку.

* * *

Павярнулі рэкі, —
а дагэтуль не зразумелі,
ад чаго вымерлі дыназаўры.

* * *

Па гасцінцы, шашы, магістралі
ідзе чалавек апантаны...
у Чырвоную кнігу.



* * *

Калі аплакваем іншых —
ці не аплакваем мы
саміх сябе?

* * *

Стаяла над горадам
і махала мне хусцінай
адзінокая
хмарка.

* * *

Пагасла свечка —
начны
матылёк.

* * *

Дождж.
Прамокла
Душа.

* * *

Расхрыстаны
грудзі
нябёсаў.

* * *

Ясачкай у змроку
мігціць
згадка.

* * *

Пасеяла маці
на градках
сляды.

* * *

Вялікдзень.
Начапілі бярозкі
пацеркі.



* * *

Лашчаць мой твар
цёплыя пальцы
дажджу.

* * *

Цячэ над горадам
рака —
неба.

* * *

Трэснула спелым
арэхам —
поўня.

* * *

Спёка ніпачым.
Схаваўшыся ў кветкі бульбы,
спраўляюць вяселлі
каларадскія жукі.

* * *

Зоркі
ўздрыгваюць у вышыні
Душы.

* * *

Схаваны ў іней,
сад на марозе
зацвіў.

* * *

Плюеш у неба,
не здзіўляйся,
чаму ты такі
апляваны.

* * *

У суседскім двары
і сонца раней
узыходзіць.



* * *

Лістотай жоўтай
асыпаюцца гады
на сметнік
Часу.

* * *

Перамагла
адзіноту
Смерць.

* * *

Выпаў снег...
Сотні слядоў
абудзіў.

* * *

У буслянцы
пасялілася
надзея.

* * *

Крокі... крокі...
Ідуць
цені.

* * *

Прагну глыбока
нырнуць —
у неба.

* * *

Іду на спатканне з каханнем.
Але за дажджом ці пазнаю яго?

* * *

Туман затаіўся ў лагчыне,
са смакам п’е
сырадой.



* * *

На пажарышчы нашага кахання
тлее вугалёк
здрады.

* * *

У вечаровым чароце
месяц плыве
закаханы.

* * *

Дзіўлюся:
на небасхіле ўзышлі
аж два маладзікі —
твае бровы.

* * *

Нябачна ўвайшлі
ў мой двор
прыцемкі.

* * *

Сон
у воблаках
тваіх веяў дрыжыць.

* * *

Па ўзгорках грудзей тваіх
узбягаю пальцамі...
Параненымі вуснамі
ўскрыкнула ноч.

* * *

Лашчу жанчыну.
Ад расы пасвятлелі
нябёсы.

* * *

Сад у квецені.
Пара матылькоў кружляе
ў любоўнай знямозе.



* * *

Святая Пасха.
У падстрэшшы галубы
Богу моляцца.

* * *

Павісла павуцінка
на кончыку
лета.

* * *

Пакінулі птушкі сад —
душа без музыкі
засталася.

* * *

Час
расцягнуўся ў
бясконцасць.

* * *

Задуменнасць:
пчала,
закалыханая сонцам,
у кветцы заснула.

* * *

Вяртаюся дадому.
Могілкі на ўзгорку
першымі бачу.

* * *

Страсаю антонаўкі
на сподак
неба.

* * *

Старасць прыйшла.
Клічу неба —
адгукаецца
крумкач.



* * *

Адам і Ева.
Сорам галізны...
Чалавек нарадзіўся.

* * *

Палова чацвёртай.
Знаходжу сны,
што заблукалі ў мае
незакончаныя вершы.

* * *

Светлая поўня.
Раскінуўшы рукі на кветках,
распешчаная ноч
заснула.

* * *

З гадамі маладосць
перастае
галёкаць.

* * *

Парадокс жыцця.
Нас няма,
але мы ёсць.

* * *

Бог
таму і Бог,
што нябачны.

* * *

І зоркі могуць
ператварацца
ў смецце.

* * *

У дзяжы неба
поўня
падышла.



* * *

Сярод пагоркаў разліўся
сырадой:
грэчневае поле.

* * *

Кідаю зярняты ў раллю,
сею
жыццё.

* * *

Красуе лён
белымі
матылямі.

* * *

З кронаў дрэваў
страсаю
зоркі.

* * *

Не стала мамы...
Перабіраю ружанца
холад.

* * *

Ценем фіранкі
застыла ўранку
ноч.

* * *

Сонцам заззяла жанчына:
у цёплым чэраве
свеціцца жыццё.

* * *

На халодным узгорку —
свежая магіла.
Яшчэ адзін вандроўнік вярнуўся.



* * *

Малітоўнік у маёй руцэ —
спавядаю
душу.

* * *

У гаспадыні, у якой няма сабакі.
ці знойдзеш
прытулак?

* * *

Я прынёс табе
кветку —
світанак.

* * *

Ціхім светлячком
знікае
поўня.

* * *

Найцудоўнейшая
музыка на свеце —
музыка цішыні.

* * *

Распусціліся
вясною кветкі
і... жанчыны.

* * *

З коміна
вылецела
неба.

* * *

Жудасная
цішыня
смерці.



* * *

На возеры
аер цвіце —
берагамі.

* * *

Духмянай яблыняй
каля бацькавай хаты
ажыло маленства.

* * *

У вачах тваіх —
кахання —
сады.

* * *

П’ю адвар
курынай слепаты —
каханне.

* * *

У няволі
і чалавек
люцее.

* * *

Расквітнелі
ў сумным маўчанні
вусны каханай.

* * *

Прагна п'ю
з калодзежа
жыццё.

* * *

Жанчына як кветка —
цягнецца
да сонца.



* * *

Сляза, што сцякае па шчацэ жанчыны,
можа выклікаць
патоп.

# Змест

## ШЛЯХІ...

## СВЯТАЯ НОЧ





## УБАЧЫЦЬ НЕБА

ПА БЕЛЫМ ПОЛЫМІ РАКІ

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 58

**Дэбіш** Васіль

**ДЭБІШ**

*Вершы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Каско*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *Н. Кучмель*

Падпісана да друку 14.02.2015. Фармат 80х100 1/32.
Папера афсетная. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 10,37.
Ул.-выд. арк. 4,22. Наклад 250 ас. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 01.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.